
«Арлянам» 70! → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Карані Калоднэра → 5

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 44 (3155) Год LXI Беласток, 30 кастрычніка 2016 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Беларускасць уключыў у сябе!

Хрыстафор Марыя **Ружанскі**

**Сустрэць яго можна на дрызінавай чыгунцы, якой з'яўляецца ініцыятарам і сузаснавальнікам. Ураджэнец Гдыні, так як бацька — марак. Завяршыў вучобу на Ваенна-марской акадэміі ў Гдыні, геаграфію ў Торуні і евангеліцкую тэалогію ў Варшаве. Цяпер пачаў доктарскія штудыі на праваслаўнай тэалогіі і з'яўляецца евангеліцкім дапаможным пастарам у Беластоцкім прыходзе. Сваю бяспечную зямлю знайшоў на ўскраіне Белавежскай пушчы ў вёсцы Скупава. Хрыстафор з'яўляецца асобай, якая адкрыла беларускасць для сябе і адкрывае яе перад мясцовымі.**

**Відаць што карыстаешся выгодамі цывілізацыі і пастаянна мяняеш транспартныя сродкі — цягнікі, караблі, «Сейчэнта» на жалезных колах...**

Учора ляцеў самалётам з Гданьска ў Варшаву. Але толькі ў якасці пасажыра.

**Самалётам? Што гэта за філістэрства?**

Квіток на самалёт каштаваў 12 злотых, калі на цягнік каштуе каля 30.

**Ясна. А скуль канцэпцыя машыны на жалезных колах? Гэта даволі арыгінальная ідэя.**

Гэты праект гіне ў цемры гісторыі. Ужо ў трыццатых гадах можна было на такім пакатацца. На польскім грунце вельмі папулярная была «Варшава» з чыгуначнымі коламі. Такая ёсць у Беластоку, такую таксама мае Таварыства з Чаромхі. У мяне гэта «Сейчэнта».

**Тады можна сказаць, што гэта першае «Сейчэнта» на рэйках?**

Думаю, што так як з усімі дзіўнымі рэчамі, няма адказу на гэтае пытанне таму, што калі нехта робіць штосьці дзівацкае, заўсёды разлічвае на гэта, што ён пачынальнік. Наогул аказваецца, што ўжо хтосьці дзесьці прыдумаў падобнае. Але можна сказаць, што гэта другое (першае трэба было здаць на металалом) аўто на гэтай чыгуначнай трасе.

**Хто зрабіў цюнінг машыны?**

Апрача колаў пра цюнінг клапаціўся я сам. Аднак машына, так як нармальная, штогод праходзіць тэхнічную праверку. Адным словам дастаткова паняць колы і можна яе выкарыстоўваць як любую іншую.

**Здаецца, што маеш дрэнна пастаўленыя люстэркі? Даедзем бяспечна з Чарлёнкі ў Белавежу?**

Гэта адмыслова, каб бачыць заднія колы. Ну, былі такія планы, каб аж у Пружаны і далей у свет ехаць, але, на жаль, рэйкі паклалі толькі ў Белавежу. Першапачаткова пуць вёў да палаца, пазней пабудавалі другую таварную станцыю і праклалі рэйкі да яе. Была канцэпцыя, каб лінія ішла далей у Пружаны, але не атрымалася.

**Ты з'яўляешся ініцыятарам арганізацыі Пушчанская дрызінавая чыгунка. Скуль такая думка?**

Я дзейнічаў у такім таварыстве яшчэ на Кашубах. Пабачыў, што і тут закрытыя лініі ў маляўнічым краявідзе (Скупава — Хрызанаў, Гайнаўка — Белавежа). Так што я ведаў, што перада мною гістарычная місія.

**Паклікала Цябе Падляшша аж з Гдыні!?**

Так. Гдыня гэта цікавая з'ява — была сабе кашубская вёсачка, прыехалі мудрацы з Варшавы і задумалі, што тут будзе ваенны порт, пазней таксама гандлёвы, каб не было праблем з Гданьскам. Таму тая жменька кашубаў пры гэтай «навалачы» пакідала пытанне ці Гдыня застаецца надалей кашубскай.

**Жывеш ужо 15 гадоў пад Гайнаўкай, у Скупаве. Гэта сёння даволі рэспектабельная падляшская вёска?**

Учора на вакзале ў Варшаве паклікалі мяне па прозвішчу. Аказалася, што гэта палкоўнік авіяцыі, які таксама жыве ў Скупаве і адначасна вядзе заняткі ў Вайсковай акадэміі ў Варшаве. Так што ў пэўнай ступені тая сітуацыя пацвярджае Твае словы, аднак я ніколі пра гэта не задумваўся. Мяне больш цікавіць фізічная геаграфія чым сацыяльна-эканамічная.

**І гэтым заваявала Цябе Падляшша і трымае ўжо амаль 15 гадоў?**

Улічваючы тыя месяцы, калі я быў на караблі, будзе менш. Але наогул ужо ў 16 гадоў я прыязджаў у Белавежскую пушчу на экскурсіі роварам. Магу паганарыцца, што ведаю вельмі добра ўсе шляхі і дарогі. Не будзе перабольшаннем калі скажу, што так добра, як мясцовыя. Тут дзіка. Мая першая бацькаўшчына гэта Шпіцберген, Арктыка. Тут іншага віду «дзіч», якая характэрная большай колькасцю чарвякоў.

**Лічыш сябе кашубам?**

Так — між іншымі.

**Між іншымі? Жывучы пятнаццаць гадоў на Падляшшы разумею, што яшчэ і беларусам?**

Адчай рахмістраў пры перапісе насельніцтва быў вялікі, калі я запісаўся кашубам і беларусам. Можна падаваць дзве нацыянальнасці.

Адно з адрозненняў, якое па сённяшні на Падляшшы коле ў вочы, гэта мова, а хутчэй стаўленне да яе. На Кашубах мясцовая гаворка (пасля некалькіх гадоў пераследу з боку камуністычнага рэжыму, калі яна па законах магла быць называная «польскім дыялектам», ды і наогул уся *kaszëbizna* — формай польскага народнага фальклору) з'яўляецца гордасцю, і адначасова турыстычнай атракцыяй. Наведвальнікаў вітаюць знакі «Witômë na Kaszëbach», тут і там можна сустрэць двухмоўныя назвы вуліц, раёнаў, вёсак або прыпынкаў, пачуць аб'явы ў грамадскім транспарце. У многіх месцах да гэтага часу вісяць кашубскія сцягі і *kaszëbskie* элементы (у тым ліку моўныя!). Яны таксама прысутнічаюць у камерцыйнай сферы (напрыклад, у гандлёвым цэнтры). ***І гэта ўсё ў адносінах да мовы, на якой на самой справе (хаця кашубы маюць адметную інтанацыю, граматыку, лексіку) ужо мала хто размаўляе — сумны малы дроб таго, што ў вас на Падляшшы па-свойму, просту, беларуску...***

У гэтым кантэксце мяне здзіўляе, што адносна папулярная мова (часова адкладаючы мясцовыя спрэчкі аб выбары алфавіту, як яна маецца да літаратурнай беларускай мовы) замест цешыцца сваім даволі натуральным месцам побач зубра, «зялёных лёгкіх», «адметнай кухні» ды іншых славутасцей нашага рэгіёна, звязана са стыгмай, а яе месца абмяжоўваецца тысячам «толькі»: «толькі дома», «толькі на вёсцы», «толькі з дзядамі», «толькі для праваслаўных», «толькі ў мове, але не на пісьме»...

**Ці думаеш, што дзякуючы асобам падобным Табе, якія захапіліся беларускай мовай і культурай, гэта можа быць нейкім стымулам для нас, якія магчыма не ўмеюць сябе так прамаваць як кашубы, каб усё такі «выйсці» са сваёй культурай?**

Я не ведаю ці магу быць нейкім стымулам, пераацэньваеш мяне. Падобна як мясцовыя пераацэньваюць несасцігальнасць сваёй мовы. Амаль ніколі не будзе з вамі жыхар Падляшша размаўляць па-свойму з незнаёмцам, «бо такі не зразумее», і «гэта не wypada!». Гэта настолькі моцнае, што тычыцца нават маіх суседзяў, з якімі жыву 15 гадоў. Адзінае выключэнне гэта калі біру кагосьці аўтастопам і сам пачынаю размаўляць па-свойму. Гэта на самой справе з'яўляецца для мовы забойствам, таму што ў большасці выпадкаў падляшукі будуць гаварыць на польскай мове, калі загадзя не даведаюцца, што чалавека нельга лічыць «сваім». Гэта «swojskość» з'яўляецца забойчай, бо мова з'яўляецца жудасна эксклюзіўнай, «толькі для мясцовых».

Акрамя таго, сама Твая заўвага (і не толькі Ты так гэта ўспрымаеш) паказвае нейкую «палахлівасць» думання пра гэта. Калі, напрыклад, з'ехаў бы ў Нарвегію (дзе, папраўдзе, акрамя ўзбуджэння сімпатыі ў мясцовых жыхароў, а часам прачытання меню ў рэстаране — нарвежская мова непатрэбная ні для чаго, таму што ўсе ідэальна ведаюць англійскую мову) і паспрабаваў бы вывучыць нарвежскую мову, і купіў бы нарвежскі світар, ніхто не палічыў бы гэтага «фасцынацыяй», толькі натуральным элементам асіміляцыі.

**Цяпер натуральнай з'яўляецца Твая беларуская сарочка! Дзякую за размову!**

**Тэкст і фота Уршуля ШУБЗДА**







# Джон Макейн канец эпохі

У кожнай дзяржавы ёсць свае пункты адліку. Часам за гістарычнымі яркімі падзеямі, нейкімі эфектнымі датамі, час сапраўднага пералому застаецца незаўважаным. А часам усё відавочна і прагназуецца наперад на дзесяцігоддзі, а то і больш. Такая відавочнасць была, прыкладам, са зменай у Расеі ельцынаўскай эпохі на пуцінскую. Усё зразумела было ўжо пасля пару тыдняў кіравання новага ўладара Крамля. Многія пра гэта пісалі, адзінае — што доўга мы ўсе спісвалі еўрасаюзныя і амерыканскія загульванні з Пуціным на недалёкасць і неабачлівасць заходніх палітыкаў. А праўда яшчэ і ў тым, што ў аперацыях па пашырэнні ўплыву Крамля на сусветную палітыку былі шырока задзейнічаны заходнія палітыкі разнастайнага спектру, ад ультраправых да ўльтралевых. Пра гэты маштаб добра напісаў зусім нядаўна геніяльны шахматыст і расейскі апазіцыйны палітык Гары Каспараў.

Калі ж казаць пра наймагутнейшую дзяржаву сучаснага свету — Злучаныя Штаты Амерыкі, то сваю апошнюю вялізную памылку яе народ зрабіў у 2008 годзе, калі з двух кандыдатаў у прэзідэнты, выбраў дэмакрата Барака Абаму. Яго сапернік — рэспубліканскі сенатар Джон Макейн — быў якраз той асобай, якая магла істотна ўплываць не толькі на ўнутранае развіццё краіны, але і на ўсю сусветную палітыку. Але яго, на жаль, не выбралі. У маім асабістым успрыманні палітычнага свету — гэта быў бы ідэальны прэзідэнт ЗША, нездарма яго называлі другім Рональдам Рэйганам. Але зоркі не скласіся, падзеленых галасоў забракла, рэспубліканцы прайгралі тыя выбары. А шкада, бо Макейн цудоўна разумеў і разумее палітыку Масквы. Гэта чалавек, які глядзеў смерці ў вочы, ведае кошт чалавечага жыцця, выдатна адчувае сутнасць таталітарных рэжымаў. І не можа быць карумпаваным, як бальшыня сучасных палітыкаў. У выніку ж наступіла эпоха няздарнай, непаслядоўнай і неабачлівай знешняй палітыкі абамаўскай адміністрацыі, з Крамлём яна гулялася ў „перазагрузку", на Блізкім усходзе і ў Паўночнай Афрыцы ўвогуле не мела ніякага выразнага бачання, што давяло да хаосу ў многіх кропках свету. На гэтым фоне Нобелеўская прэмія міру Абаму глядзелася як няўдалы жарт. Былі яшчэ выбары 2012 года, дзе спрацавала сіла інерцыі — нязначнай большасцю Абама быў пераабраны, а рэспубліканскі кандыдат Міт Ромні амаль нічым не запомніўся. Восем гадоў кіравання абамаўскай адміністрацыі, у якой працавала і кіравала таксама Хілары Клінтан, — час страты ЗША свайго аўтарытэту.

Раскладка сіл зараз у час амерыканскіх выбараў відавочная і выразная. За Хілары Клінтан, якой мала 8 гадоў пры ўладзе, — магутныя вялікія фінансавыя карпарацыі, буйныя прамысловыя кампаніі, разнастайныя меншасці — канфесійныя, нацыянальныя, сексуальныя, навуковая эліта і так званы свецкі бамонд, ліберальныя медыі, якія складаюць 90% ад усіх медый. За Дональда Трампа — белая хрысціянская Амерыка, рабацягі, вытворцы, сярэдні клас. Сам Трамп у мяне асаблівых сімпатый не выклікае, рэспубліканцы зноў не вылучылі лепшага, але дастаткова было паглядзець толькі адны тэледэбаты, каб зразумець — наколькі гэтая кампанія брудная з боку дэмакратычнага лагера і асабіста яе вылучэнкі. Замест дыскусіі па найбольш прынцыповых пытаннях унутранага развіцця і знешняй палітыкі Хілары разам са сваёй камандай і армадай агрэсіўных медый вылівае на свайго апанента тоны бруду і пераважна фальшывага кампрамату. Паводле афіцыйных звестак Трамп патраціў на сваю рэкламу 5 мільёнаў долараў, Клінтан на сваю — ажно 125 мільёнаў — у 25 разоў больш (!). Таму, не ведаю, як вы, а асабіста я не веру ў розныя сацыялагічныя апытанні, якія аддаюць безумоўную перамогу Клінтан. У сённяшнім падманным свеце фальшуецца ўжо ўсё. І не верыцца, што хоць у якой краіне выбары можа выйграць асоба кшталту амерыканца Джона Макейна, што на чале дзяржавы можа стаць чалавек роўню чэха Вацлава Гавела ці літоўца Вітаўтаса Ландсбергіса. Вось і ў Польшчы, пасля Смаленскай катастрофы 2010 года і забойства польскай палітычнай эліты, высвятляецца, што і правіца ўжо зусім не такая і палітыкаў такога кшталту як Лех Качынскі, здаецца, ужо няма. Такая цяпер эпоха.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Малпіна ліхаманка

Малпіна ліхаманка распаўзлася амаль па ўсім свеце. Такім чынам мы маем справу з пандэміяй. Гэта захворванне, як калісьці памор, чорная чума, пранца ці ВІЧ не ведаюць меж, не шкадуюць ні бедных, ні багатых грамадстваў. Ліхаманка трасе амерыканцаў, палякаў. Венгры ліхаманкавыя ўжо так доўга, што хвароба перайшла ў своеасаблівую назву — «арбаніцу». У Турцыі, у сваю чаргу, гэта «эрдаганіца». Магчыма, польскую мутацыю трэба назваць «качаравіцай». Альбо «пісавіцай». Справа сапраўды не ў назове, але сімптомах захворвання. Яны аднолькавыя ўсюды. Выяўляюцца нездаволенасцю грамадства са статус-кво — на палітычным, культурным і эканамічным узроўнях, бунце супраць эліт. І гэта неабавязкова толькі кіруючых эліт. Той бунт, здаецца, антысістэмны — калі мы маем на ўвазе «сістэму» як штосьці старое, зношанае — і звязана яно з неабавязкова сфармуляванай у калектыўнай свядомасці неабходнасці радыкальных змен — якімі б яны былі. І нават калі ў апакаліптычным вымярэнні, як гэта праявілася ў глабальнай істэрыі 2012 года. Ці цяпер — ва ўніверсальным страху перад «чужымі». «Чужыя» ў гэтым кантэксце з'яўляюцца зямныя імігранты — няшчасныя выгнанікі са сваіх краін з-за рэлігійнай ці культурнай вайны — якія пайшлі на сутыкненне з сытай цывілізацыяй «белых» хрысціян, як і незямныя. Пры гэтым спектр «чужароднасці» досыць шырокі. Пачынаючы ад астэроідаў, блукаючых катастрафічна блізка да Зямлі і незвычайнай гіперактыўнасці Сонца, што прыводзіць да тэктанічных землятрусаў і змены клімату, і, нарэшце, да прыроднай варожасці іншапланецян, і заканчваючы тэалогіямі Апакаліпсісу, прадвяшчаючымі знішчэнне нязменна грэшнага чалавецтва бязлітасным Богам. За кожным з гэтых прыкладаў стаіць ідэнтычная прычына. Малпіна ліхаманка! Справа ў тым, што гэтая ліхаманка ахапіла грамадствы, якія толькі будуюць дэмакратыю. Да такіх трэба прылічыць і Польшчу. Але таксама Беларусь і Расію з часу, калі пасля краху савецкага таталітарызму пачаліся ў гэтых краінах ствараца «з нейкай сарамлівасцю» дэмакратычныя асновы палітычнай сістэмы. Магчыма, там было зашмат у гэтых дзеяннях «сарамлівасці» і недастаткова грамадскай рашучасці ці свядомасці мэты, таму што дэмакратыя там хутка саступіла поле найперш дзяржаўнаму аўтарытарызму, і неўзабаве асабістаму — Лукашэнкі і Пуціна. Гэтак жа рэгрэсіўны працэс адбываецца сёння ў Бразіліі і Індыі. Нядаўні прыклад з далёкіх Філіпінаў (або бліжэйшы — польскі), дзе ў выніку дэмакратычнай волі большасці выбаршчыкаў у гэтай краіне ўладу захапіў палітычны невук, крыкун і абсалютны самадзержца, нейкі Радрыга Дутэртэ, што паказвае, што падмуркам дэмакратыі з'яўляюцца галовы грамадзян. Дакладней, іх розумы падзеленыя на «чалавечую» і «жывёльную» часткі. Не канстытуцыя, якую лёгка змяніць (як у Венгрыі і Турцыі) ці палітычная, векавечаная досведам стагоддзяў сістэмная традыцыя (як у ЗША). Я паўтараю: дэмакратыя гэта стан чалавечых розумаў. Але што, калі гэта замуціць малпіна ліхаманка? Нагадаю, што ў Польшчы набралася яе прыкладна палова насельніцтва. Таксама, як і ў ЗША. Ліхаманкавыя амерыканцы хочуць паставіць на гэтак як ліхаманкавага Дональда Трампа. А што, калі ён на самой справе выйграе дэмакратычныя выбары? Ну і што, што тая верагоднасць, кранаючая ўпэўненасці, што буду сведкам глабальнай распардухі, вельмі несправядлівая? Несправядлівасць закранае ўсіх людзей. Дык чаму я павінен жадаць для сябе выключнай справядлівасці? Лепшага свету. Жыцця сярод прыгожых і добрых людзей. Працы ў адпаведнасці са сваімі здольнасцямі і амбіцыямі. Вечнай маладосці. Ці нават спакойнай і мірнай старасці.

Панецце справядлівасці з'яўляецца ўтапічнай фігурай, аб чым вучыць нас крайні прыклад савецкага камунізму. Гэтак жа ўтапічны радавод мае справядлівасць на прыкладзе мінулагодняй Польшчы. На маю думку, гэта праява такой жа ліхаманкі, якая нападала на людзей у мінулым, сёння і будзе атакаваць у будучыні. У першую чаргу атакуе малпу, на якой возіцца ад світанку нашага чалавецтва. Малпа з'яўляецца сумай атавістычных страхаў, фундаваных нашаму чалавецтву эвалюцыяй. Гэта першабытныя інстынкты. Гэта «жывёльная» частка нашай чалавечай істоты. Тым не менш, будучы неад'емным дзіцём чалавецтва, несенага на спіне асабістай малпы, не магу адмежавацца ад адказнасці за яе. Тым больш, што і на яе можа абрынуцца ліхаманка. Не дай Бог!

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Гібрыдная гідра

На мінулым тыдні з вялікай зацікаўленасцю пайшоў я паслухаць дыскусію пра сённяшнія гібрыдныя войны, арганізаваную Рэгіянальным асяродкам міжнароднай дэбаты — няўрадавай структурай, якая фінансуецца Міністэрствам замежных спраў Польшчы. Гэтым разам арганізатары на месца дыскусіі выбралі актавую залу Беластоцкага ўніверсітэта па вуліцы Сьвярковай. Дакладчыкамі перад беластоцкімі студэнтамі і вучнямі сярэдніх школ выступілі агульнавядомы ў Польшчы і свеце спецдэсантнік генерал Раман Полька і дырэктар тэлеканала «Белсат» Агнешка Рамашэўская. Як выявілася ў ходзе сустрэчы, іхняе знаёмства працягваецца з часоў балканскіх канфліктаў, калі спадарыня Агнешка была карэспандэнткай Польскага тэлебачання, а тады яшчэ не генерал Полька камандаваў польскімі міратворчымі вайсковымі часцямі.

Узаемадзеянне вайскоўцаў і журналістаў у час ваенных канфліктаў заўсёды заканчваецца пытаннямі: што дазволена сказаць, а дзе ўжо пачынаецца вайсковая цэнзура; што ёсць праўдай у ваенных паведамленнях, а што прапагандай; ці журналісты ў сваіх карэспандэнцыях не становяцца толькі трансмітарамі зверху і загадзя падрыхтаванага аддзеламі контрразведкі і інфармацыі прэпараваных матэрыялаў, якія патрэбныя дзеля палітычных інтарэсаў, а не журналісцкай праўды. Менавіта пераноc гэтай жа інфармацыйнай вайны на кожны дзень нашага мірнага жыцця, у спалучэнні з ужо праслаўленымі, зялёнымі чалавечкамі і ёсць менавіта той гібрыднай вайной. Без класічнага, збройнага змагання пры дапамозе грошай, а затым вобразу, у атакаванай дзяржаве можна выклікаць дэстабілізацыю і хаос, грамадскімі пратэстамі аспрэчваць, напрыклад, легітымнасць дэмакратычных выбараў і рашэнняў улад. Прытым не менш важным у сённяшнім часе з'яўляюцца абавязковыя спробы захапіць гаспадарчыя рынкі і структуры такой краіны. Такім чынам і без вайны ў класічным разуменні можна давесці да падзення дзяржаў і іх падпарадкавання чужаземным інтарэсам.

Увесці ў штодзённы ўжытак тэрмін гібрыдная вайна не было б магчыма без амаль штогадовых тэхналагічных рэвалюцый, якія дазваляюць наглядаць і яшчэ больш маніпуляваць сярэднестатыстычным чалавекам. Калі на гэта накласці штодзённую, мэтанакіраваную, падсвядомую прапаганду, нашы мазгі не ў змозе аддзяляць фальш ад праўды, тэму важную ад нейкага падкідыша. Мэта адна — зрабіць у масах такую сечку, якая будзе выклікаць у нас пачуццё поўнай дэзарыентацыі, няўпэўненасці, адчаю.

У ходзе сустрэчы генерал Раман Полька вельмі цікава прадставіў свае назіранні за сённяшнімі, геапалітычнымі зменамі і кароткатэрміновымі, палітычнымі саюзамі на прыкладзе, між іншым, Афганістана, Ірака, Сірыі, Расіі. У якасці прыкладу выступоўца паказаў, што нядаўні вораг нумар адзін Амерыкі Асама Бін Ладэн, у час афганскай вайны ў амерыканскай прэсе ўслаўляўся як герой і самаахвярны амерыканскі саюзнік. І здараецца нешта такое ў палітыцы, што нядаўнія саюзнікі становяцца непрымірымымі ворагамі.

Зразумела, увага і пытанні слухачоў не маглі абмінуць справы ўзнікнення ісламскай дзяржавы. Спадар генерал сцвердзіў, што не было б можа і гэтага пытання, калі б не абсалютна памылковае, на яго думку, рашэнне амерыканскіх улад, калі пасля разгрому Ірака Садама Хусейна, адным загадам была распушчана ўся іракская армія. І менавіта выкінутыя з дня на дзень беспрацоўныя вайскоўцы сталі апірышчам для мілітарных поспехаў ісламскіх фанатыкаў. Сталі проста збройнай рукой сістэмы, прагнай помсты за здзек над імі. А абавязак помсты ў ісламскім свеце гэта справа найвышэйшага гонару. Таму, на думку выступоўцы, амерыканская палітыка ў гэтым рэгіёне, уключыўшы апошнія падзеі ў Сірыі, атрымала поўную паразу.

Некаторыя трагічныя канфлікты можна было б вырашыць значна хутчэй і без сотні тысяч бязвінных ахвяр, але для гэтага патрэбны чалавечы падыход і рашучасць. Людзі, якім выпала на гэты момант быць палітычнымі ўладарамі ў сённяшнім свеце, пастаянна лавіруюць паміж палітычным цынізмам і палітычнай карэктнасцю. Відаць гэта вельмі добра і ў адносінах да Расіі, якая з'яўляецца класікам гібрыдных канфліктаў у мінулым і зараз. А гэта ўсё маем пад бокам штодзень. Тады наглядайма задумліва над нашым кускам свету, бо сённяшні час патрабуе ад нас розуму і разважлівасці.

**Яўген ВАПА**




«Арляне» займальна запрэзентавалі свае лепшыя песні, а акампанемент калектыву саставілі Мікола Фадзін на акардэоне і інструментальная капэла з Гродна

# 70 гадоў калектыву «Арляне»

**Народны калектыў «Арляне» з Орлі дзейнічае на Беласточчыне найдаўжэй з ліку ўсіх беларускіх самадзейных калектываў, бо ажно 70 гадоў. Пасля Другой сусветнай вайны заснаваў яго мясцовы псаломшчык Радзівон Агіевіч, які адначасова стаў музычным кіраўніком калектыву. Першапачаткова называўся ён «Мандаліні — спевакі з Орлі», таму што многія яго члены ігралі на мандалінах, балалайках, гітарах і арфе. Цяпер мы ведаем калектыў пад назвай «Арляне», які расслаўляе беларускае слова і культуру падчас мерапрыемстваў у Падляшскім ваяводстве і па-за нашым рэгіёнам. «Арляне» здабываюць прызавыя месцы на фестывалях «Беларуская песня», дабіваюцца поспехаў на шматлікіх аглядах. Многа цёплых слоў спевакі пачулі на юбілейным святкаванні ў гонар 70-годдзя дзейнасці, якое 15 кастрычніка адбылося ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы імя Арлянскай зямлі ў Орлі. Госці з-па-за Арлянскай гміны па дарозе з радасцю або цікаўнасцю спаглядалі на ўказальнікі з назвамі мясцовасцей гміны на польскай і беларускай мовах.**

Падчас юбілейнай урачыстасці ў спартыўнай зале арлянскай школы члены калектыву «Арляне» прывіталі войта гміны Пятра Сэльвесюка караваем і выступілі з прывітальнай песняй. У ходзе канцэрта запрэзентавалі яны свае лепшыя песні, перш за ўсё народныя творы ў апрацоўцы свайго музычнага кіраўніка Міколы Фадзіна з Гродна, які займаецца з «Арлянамі» чвэрць стагоддзя. Акампанемент арлянскаму калектыву саставілі сам Мікола Фадзін на акардэоне і інструментальная капэла з Гродна, якая спецыяльна прыехала на юбілей «Арлян». Цікава запрэзентаваліся таксама салісткі «Арлян» Ніна Шыманская і Валянціна Арэшук, а ўсю ўрачыстасць удала вялі журналістка Радыё Рацыя Анна Шайкоўская і настаўніца Гродзенскага каледжа мастацтваў Ніна Домань. Усім прыбылым на святкаванне арганізатары дарылі нававыдадзены кампакт-дыск «Арляне. 70-годдзе калектыву» з яго песнямі. Пасля выступу юбіляраў, які быў успрыняты гарачымі апладысментамі, «Арлян» павіншавалі войт Арлянскай гміны і госці.

— Вы стварaеце нашу гісторыю і з'яўляецеся візітнай картачкай нашай гміны, — звяртаючыся да юбіляраў заявіў войт Пётр Сэльвесюк, які разам з Гмінным асяродкам культуры ў Орлі і самым калектывам «Арляне» арганізавалі святкаванні з дапамогай дырэктар школы Марыі Тамчук.

Членаў «Арлян» і іх музычнага кіраўніка Міколу Фадзіна віншавалі з 70-годдзем калектыву, а таксама ўручалі падарункі, у тым ліку грашовыя, гравертоны і кветкі — войт Арлянскай гміны Пётр Сэльвесюк і дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Орлі Анна Несцярук, бельскі староста Славамір Снарскі, бургамістр Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі, войт Чыжоўскай гміны Юры Васілюк, які прыбыў разам з дырэктарам ГАК у Чыжах Юрыем Якімюком. Дырэктар Культурнага цэнтра Рэспублікі Беларусь у Варшаве Міхаіл Рыбакоў зачытаў віншавальны ліст надзвычайнага і паўнамоцнага пасла РБ у Польшчы Аляксандра Авяр'янава. Юбіляраў віншавалі дырэктар Дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы ў Беластоку Анатоль Вап і іншыя прадстаўнікі Маршалкоўскай управы, радны Падляшскага сейміка Валянцін Карыцкі зачытаў ліст маршалка Падляшскага ваяводства Ежы Ляшчынскага. «Арлян» павіншавалі намеснік старшыні Галоўнага праўлення БГКТ Васіль Сегень, які на ўрачыстасць прыбыў разам са старшынёю БГКТ Янам Сычэўскім, Дарыюш Крышлінюк з ВААК у Беластоку, былая дырэктар ГАК у Орлі Аліцыя Собунь і прадстаўнікі калектываў, якія выступілі на юбілеі. Свой верш з пажаданнямі, напісаны на прыгожай беларускай мове і прымеркаваны да 70-годдзя дзейнасці «Арлян», зачытаў народны паэт з Пашкоўшчыны Уладзімір Сасна.

Выдатная большасць членаў калектыву «Арляне» спяваюць у царкоўным хоры. На ўрачыстасць прыбылі мясцовыя святары — настаяцель прыхода протаіерэй Славамір Хвойка і вікарныя протаіерэй Анатоль Такаюк і іерэй Андрэй Жукавіцкі, а таксама настаяцель Шчытоўскага прыхода протаіерэй Ян Сцепанюк, якія пажадалі калектыву многа гадоў дзейнасці, а іх членам — добрага здароўя.

Заснавальнікам і кіраўніком арлянскага музычнага калектыву быў Радзівон Агіевіч, псаломшчык у царкве Іаана Багаслова ў Орлі ў 1929-1963 гадах. Першымі членамі калектыву «Мандаліністы — спевакі з Орлі», які пасля атрымаў назву «Арляне», былі Ілья Кубаеўскі, Аляксандр Кубаеўскі, Ян Кубаеўскі, Ян Раманюк, Міхал Кулік, Віктар Назарэвіч, Мікола Мураўскі, Мікола Лапух, Яраслаў Адзіевіч, Юры Ёдла, Ілья Адзіевіч, Мікола Кубаеўскі, Ян Война, Аляксей Ляшэвіч, Юзаф Назарэвіч, Галіна Скоўран, Галіна Пішчатоўская, Янка Сівэк, Лена Кунтышава, Марыя Карвацкая, Матрона Аўдзіевіч, Яўгенія Герасімюк, Яўгенія Рэнгайла (Хаміцкая) і Фёдар Аўдзіевіч. Праз калектыў з Орлі правінулася звыш ста чалавек. Сённяшнія спевакі цёпла ўзгадвалі Радзівона Агіевіча, якога яшчэ памятаюць, і астатніх музычных кіраўнікоў, якія працавалі з арлянскім калектывам — Яна Санеўскага, Міраслава Кадзевіча, Рыгора Качынскага, Пятра Нявінскага, Юзэфа Янушка, Аляксандра Валкавыцкага і Міраслава Бужынскага. Пасля калектывам кіравалі музыканты з Рэспублікі Беларусь — Валеры Кручкоў з Гродна, Аляксандар Сасновіч з Мінска, а ад 25 гадоў музычным кіраўніком працуе Мікола Фадзін, а дапамагае яму жонка Людміла Фадзіна, якая займаецца харэаграфіяй і выступае ў калектыве.

— Я добра памятаю першага музычнага кіраўніка Радзівона Агіевіча, з якім мы ездзілі асвячаць помнікі. Ён быў цудоўным чалавекам і добрым арганізатарам царкоўнага хору і свецкага калектыву. Чарговыя музычныя кіраўнікі таксама ўдала вялі калектыў. Для калектыву вельмі заслужылася Вера Валкавыцкая, якая ў мінулым арганізавала ў Орлі культурную дзейнасць, — сказала Тамара Русіновіч, якая спявае ў калектыве і царкоўным хоры.

— Я пачала выступаць у калектыве яшчэ ў маладасці, у 1952 годзе. Пасля быў перапынак, калі я выхоўвала сваіх дзетак. Пасля зноў стала спяваць у калектыве, бо вельмі люблю гэта рабіць, — заявіла Ніна Гаўзэ.

«Арляне» спевам і ігрой на інструментах захаплялі таксама гарадскую публіку, выступаючы падчас Цэнтральных дажынак у Любліне ў 1949 і 1955 гадах і ў Варшаве ў 1957 годзе. Яны дастойна выступілі падчас Агульнапольскага з'езду моладзі ў 1952 годзе і Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў у 1955 годзе ў Варшаве. У 1955 годзе калектыў з Орлі выступаў у Шчэціне і Ломжы. Пазней «Арляне» займалі прызавыя месцы на фестывалях «Беларуская песня», дабіваліся поспехаў на шматлікіх конкурсных мерапрыемствах, выступалі з канцэртамі ў розных мясцовасцях Беласточчыны і па-за нашым рэгіёнам. У цяперашнім складзе «Арлян» займаюцца музычны кіраўнік Мікола Фадзін і яго жонка, харэограф калектыву Людміла Фадзіна, Ніна Гаўзэ, Ніна Шыманская, Тамара Русіновіч, Зінаіда Навіцкая, Валянціна Арэшук, Таіса Галоўня, Вера Таранта, Ян Стасюк, Валянціна Марціновіч і Віталь Соха. Творы ў выкананні «Арлян» былі запісаны і выдадзены на аўдыякасеце і кампакт-дысках.

— Я з калектывам «Арляне» працую ўжо 25 гадоў. Мы супольна выступалі на беларускіх мерапрыемствах і іншых імпрэзах, дабіваліся многіх поспехаў. Спяваем найчасцей на 5 галасоў, выступаючы з беларускімі народнымі песнямі ў маёй апрацоўцы і беларускімі аўтарскімі песнямі. Сёння выступілі з прывітальнай песняй, да якой я скампанаваў музыку на словы майго брата Барыса Фадзіна. З неапрацаваным фальклорам наш калектыў выступаў прэзентуючы абрады і тады мы таксама спявалі неапрацаваныя песні, запісаныя Сцяпанам Копам на гэтай тэрыторыі. У нашым рэпертуары ёсць таксама паасобныя творы на расійскай, украінскай і польскай мовах. Я рады, што тут людзі хочуць спяваць на роднай мове і калектыў з Орлі так доўга дзейнічае, — сказаў музычны кіраўнік «Арлян» Мікола Фадзін.

Валянціна Арэшук і Вера Таранта выявілі радасць з магчымасці спяваць у «Арлянах» на роднай мове, што яны вельмі любяць рабіць. Ян Стасюк прыязджае на рэпетыцыі з Пашкоўшчыны, а Віталь Соха ажно з Тапорак. Спадар Соха з «Арлянамі» спявае больш чым 5 гадоў і сказаў, што вельмі добра ацэньвае супольныя выступы.

— Я з «Арлянамі» спяваю ўжо звыш 5 гадоў. За гэты перыяд мы ўдала выступалі таксама на аглядах з нашымі абрадамі, — гаварыла Валянціна Марціновіч з Краснага Сяла, галоўны спецыяліст у «Арлянах» па абрадавых пастаноўках. Падчас XXIX Агульнапольскага сейміка вясковых тэатральных калектываў у Тарнагродзе «Арляне» выступілі з абрадавай сцэнкай «Уваходзіны» і атрымалі ўзнагароду міністра культуры.

— Я займаюся харэаграфіяй калектыву і калі з 1998 года стала прыязджаць з мужам Мікалаем у Орлю, стала ўводзіць элементы танца падчас выступаў на сцэне, — заявіла Людміла Фадзіна, якая тое самае робіць у бельскім хоры «Васілёчкі», што прыехаў на святкаванне юбілею «Арлян».

— «Арляне» як блізняты для нас, бо вядзе іх той самы музычны кіраўнік, Мікола Фадзін — цудоўны чалавек і выдатны спецыяліст па музыцы. «Арляне», як і наш хор, спяваюць па-беларуску. Сёння цудоўна запрэзентаваліся, нават без найменшай памылкі, — сказаў Уладзімір Весялоўскі з «Васілёчкаў».

Сабраных у арлянскай школе зацікавілі сваім рэпертуарам выканаўцы юбілейнага канцэрта — хор «Васілёчкі» і калектывы «Малінкі» з Малінніка, «Каліна» з Залук, «Калінка» з Беластока і «Чыжавяне» з Чыжоў. Удала выступіў таксама калектыў «Вэрвачкі» з Орлі. На юбілейнае свята запрошаны былі таксама былыя члены «Арлян», былыя кіраўнікі, дырэктары і інструктары Гміннага асяродка культуры ў Орлі.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Бяспечная Арлянская гміна

У цэнтры Орлі здавён-даўна званым рынкам, ад гадоў пуста і... бедна. Геэсаўскія крамы пустуюць, нішчэюць, адпадае штукатурка, сарамлівы вобраз. І людзей там круціцца мала, а пасля 16-й гадзіны — зусім няма. У блізкім наваколлі дзейнічаюць тры прыватныя крамы, пры адной (дзе калісь быў пастарунак паліцыі) у панадворку ёсць піўны агародчык. Каля аўтобуснага прыпынку вечаровай парою дзейнічае нейкі бар, іншы прыватны бар дзейнічае на акраіне Орлі. Любіцеляў усялякіх развесяляльных напояў не меншае.

У Орлі здаўна няма крамы з вопраткай і абуткам. Раз або два разы ў тыдзень адбываецца невялікі торг у цэнтры, прыязджае некалькі аўтакрамаў і прадаюць розную драбязу, новую і ношаную вопратку; зацікаўленне невялікае. Раз або два разы ў год нехта прывозіць уцэнены абутак, спярша наклейваючы на слупах многа аб'яў і людзі збіраюцца, з'язджаюцца нават з наваколля — значыць тавар адпаведны для бедных кішэняў.

Жыццё ў Орлі плыве санліва. Калі нехта выедзе на нейкі час далей, то — як сам пасля расказвае — вярнуўшыся два дні звыкаецца зноў з арлянскай апатыяй, павольным рытмам. Нягледзячы на гэта і ў такой Орлі ліха не спіць.

На сесіі Гміннай рады 30 верасня г.г. радныя атрымалі пісьмовую інфармацыю пра стан бяспекі і публічнага парадку на тэрыторыі Арлянскай гміны за перыяд з 1 жніўня 2015 года да 1 жніўня 2016 года. З яе вынікае, што сітуацыю трэба ацаніць з... задавальненнем. Не зафіксавана ніякіх сур'ёзных злачынстваў, напрыклад, забойстваў. За згаданы перыяд адзначана 29 законапарушэнняў (годам раней — 31, а, напрыклад, у 2008 годзе — 37). Зафіксавана чатыры пакражы, адну бойку, адзін разбой, адно пашкоджанне маёмасці, сем нецвярозых вадзіцеляў, два дарожныя выпадкі і трынаццаць іншых парушэнняў закону.

У гміне, як і раней, дамінуюць законапарушэнні, здзейсненыя нецвярозымі вадзіцелямі. Не меншае лік асоб празмерна спажываючых алкаголь і залежных ад яго. Асобы, якія празмерна спажываюць алкаголь, часта не трымаюцца законных нормаў і прынцыпаў грамадскага сужыцця. Сваімі паводзінамі выклікаюць паліцыйныя інтэрвенцыі. Як сцвярджае інфармацыя ўчастковага Марціна Парфенюка, пабольшаў лік інтэрвенцый і было іх 160, на 23 больш. Дамінуюць «іншыя» паліцыйныя інтэрвенцыі і дамашнія інтэрвенцыі (36).

Акцыяй «Блакітных карт» (так як і раней) ахоплены чатыры сям'і. Яны пад пастаяннай увагай участковага, а іх сямейная сітуацыя і паводзіны пад бягучым наглядам. Прычынай гэтаму празмернае спажыццё алкаголю паднаглядным.

Дзеля паляпшэння стану бяспекі жыхароў Арлянскай гміны функцыянеры бельскай Павятовай управы паліцыі праводзілі адукацыйна-прафілактычныя дзеянні. Рэалізавалі м.інш. такія акцыі, як «Бяспечная дарога дадому/у школу», «Бяспечныя канікулы», «Не будзьма абыякавымі», «Бяспечны сеніёр», «Стоп кібернасіллю», «Не давярай бязмежна». Сярод сеніёраў праводзілі інфармацыйную акцыю наконт ашуканскіх дзеянняў метадам «на ўнучка і паліцыянта». Акцыя прынесла пажаданы вынік, бо не зафіксавана такіх правапарушэнняў.

У рамках паляпшэння бяспекі ды распаўсюджання ў грамадстве інфармацыі наконт праграмы «Краёвая карта пагроз і бяспекі» былі ладжаны сустрэчы з жыхарамі гміны.

Улічваючы гэта можна заключыць, што тэрыторыя Арлянскай гміны ў перадавыху аспекцеўзроўню бяспекі і публічнага парадку.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Сямейная сугучнасць галасоў



Ян, Крыстына, Анна і Рыгор Скепкі са Звадзецкіх

**Конкурс «Пявучыя сем'і» — найнавейшая ініцыятыва Беларускага грамадска-культурнага таварыства, якое сёлета адсвяткоўвае сваё шасцідзесяцігоддзе. Ужо трэці раз запар у сядзібу Галоўнага праўлення, што ў Беластоку па вуліцы Варшаўскай 11, пасля поўдня збіраюцца аматары беларускай песні, для якіх гэта яшчэ адна сустрэча з роднай песняй. Сярод іх ёсць таксам дэбютанты, як спадарыня Марыя Назарук, у дзявоцтве Лянкевічанка, з Гуран, якую 23 кастрычніка проста з прагулкі ў парку захапіла на любімую імпрэзу яе знаёмая, спадарыня Оля Лашчук. «Не маю шмат знаёмых. Мае сябры-католікі паўміралі, няма з кім выйсці, аднаму неяк няёмка. Калі чалавек не ведае, што будзе нейкая файная імпрэза, дык і не прыйдзе. А Оля ўзяла мяне пад руку і прывяла. Я і не ведала, што гэта такая харошая імпрэза! Спадзяюся, што будуць наступныя, і я іх ужо не прапушчу!».**

Не прапускаюць гэтага мерапрыемства, якое, спадзяемся, не знікне з календара беларускіх культурных імпрэз, такія вечныя аніматары роднай культуры, як Люба Гаўрылюк з Козлікаў. Яна сёлета прыехала з дачкой Алай Каменскай і сяброўкай з «Крыніцы» Галенай Каменскай ды яе ўнучкам Якубам Федаруком. Бойкі хлапчынка, вучань трэцяга класа ПШ у Заблудаве, выступае ў гурце «Рыбалкі» з Рыбалаў. Шасцёх хлопчыкаў. Дзяўчаткі — у «Росах». Куба — у касцюме «рыбалкоўскім». Лябжыць на ім як на падбор. Спраўны хлапец! І як хораша, сугучна з бабуляй, спявае пасвойму! Са старых «Рыбалоўцаў» жывуць яшчэ дзядзька Пецька і Янка, ды старэнькі Дзёма, але ўжо не спявае, леты не тыя...

— А мы мелі яшчэ з унучкай спяваць, Агатай, студэнткай, — кажа Люба Гаўрылюк. — Але яна сёння працуе. На папярэднім конкурсе спявала са мною і Агата, і ўнучка з гор. Мой унучак Давід ужо кончыў штудыі опернага спеву, спявае ў оперы ў Шчэціне. Мае ён сынка Віктара — маю надзею, што яшчэ і з праўнукам заспяваю! Пажыву крыху, будзе чатыры пакаленні на сцэне!

Першыя на сцэне выступілі Люба Гаўрылюк у касцюме «Рэчанькі» і Ала Каменская ў касцюме «Каласкоў». Абедзве дзяўчаты — несумненныя рухавікі і настаўніцы музычнай сцэны Беласточчыны.

— Трэба заахвоціць малодшае пакаленне, — кажа Люба Гаўрылюк. — Я трымаюся фальклору. Тыя новыя «шумавіны» пройдуць. А фальклор, гляньце, трывае. Тыя песні то так перакруцяць, то сяк, але жыве тое карэнне, што нашы прабабкі ўзгадоўвалі, тыя старадаўнія песні. І людзі прыходзяць паслухаць, як жывы спявак пяе, як музыка іграе, а не з плэйбэку каб ім пускалі, і каб ім за гэта «ляпалі». Ну, брыдкае слова тое «ляпанне», бы хто глупства якое ўпароў.

— Яшчэ толькі трэці раз сустракаюцца пявучыя сем'і ў памяшканні БГКТ, каб спяваць супольна беларускія песні на выключным свяце «Пявучыя сем'і». У параўнанні з мінулымі гадамі лік удзельнікаў узрастае. Спадзяемся, што гэтая новая ініцыятыва будзе развівацца далей, — сказаў віцэ-старшыня БГКТ Васіль Сегень. — Далучаюцца новыя сем'і, у якіх жыве традыцыя пяяць разам і адважваюцца выйсці з гэтым да іншых, на сцэну. Для некаторых сем'яў гэта дэбют выступу на сцэне з беларускай песняй. З'яўляюцца таксама новыя песні. Хочам пахваліцца адзнакай, якую Беларускае таварыства атрымала ў сваё 60-годдзе дзякуючы таксама вам і ўсім беларусам, для якіх родная культура самае дарагое ў жыцці. Гэта адзнака Заслужаны для культуры «Глорыя Арціс» ад міністра культуры і нацыянальнай спадчыны Польшчы... Кажуць, што «спяваць кожны можа, крыху лепш, або яшчэ больш прыгожа»...

Ужо крыху шырэй вядомы калектыў «Гармонь» з Ласінкі Нарваўскай гміны. Сёння яны выступяць у восем асоб. Агнешка Андраюк:

— Мы прыехалі з Ласінкі. Усе мы звязаныя з гэтай вёскай — альбо тут жывем, альбо выхаваліся ў ёй. Ласінка нас яднае і родніць. Сярод нас ёсць сям'я Пашко-Мінько-Дудзіч. Стварылі разам хор «Гармонь». Камандуе намі наша браціха, родам з Украіны — Марыя Пашко. Патрабавальная яна, але гэта добра, бо маем матывацыю для спявання. Сёння мы спяваем а капэла, «Едуць з вёскі ў горад» і «Зацвіла ў лузе каліна».

На сцэне выступіла 14 калектываў з усёй Беласточчыны ў розных катэгорыях, і вядомых, і пачаткоўцаў. Некаторыя з іх выступілі ў іншай канфігурацыі, чым у мінулых гадах. Спевакі, бывала, падраслі. Патрык Місяюк з ансамбля «Гаварыла маці спяваці» («Незабудка з сінімі вачамі» і «Васілёчкі»), з братам Кубам — ужо вучань

ліцэя № 6: «Сёння спявалі Дамініка, мая мама, Куба, Насця і Марына». Да калектыву сястрычак Астапчук (дачок Элі і Багдана) Ані, Олі і Юліты далучылася іх дваюрадная сястра Габрыся. Зноў адмыслова сабралася сям'я Васькоўскіх з Беластока, якая спявае штодзень для сябе і на сямейных сустрэчах. Сямейны гурт з Міхалова «Мама і сыночкі» — мама Івона, вядомы юны спявак Адрыян Данілюк выступіла са старэйшым на два гады сынам Цэзарым. Сцэну заваявалі Садоўскія-Пятроўскія — Анна і Юстына, Каліса і Дарка. Са сцэны не было як сцягнуць малюпасенькіх наследнікаў, якія неўзабаве — абавязкова! — стануць прымаць удзел у беларускіх імпрэзах. Як меншы сынок Сары і Марыюша Харужых (выступалі з сынам Давідам) Габрысь, які вынайшаў спосаб, каб падыграць сямейцы на бубне, схаваным за заслонай. Нядаўна малодшая дачка Магда толькі падспеўвала сястры Магдаліне Маліноўскай, а сёння разам з мамай Лідзіяй заваявалі гран-пры фестывалю. Бо іначай не назавеш гэтага мерапрыемства — гэта быў сапраўдны міні-фестываль, поўны тэмпераменту і радасна бляску вачэй і выканаўцаў, і слухачоў. Фурор выклікала асабліва радня Скепкаў са Звадзецкаага Гайнаўскай гміны, якія прыехалі «проста з застолля» і тэмпераментна, на поўны беларускі голас, як на раздоллі, праспявалі «Вэрбоньку» і «Коло млына»: бацька Ян, маці Крыстына, дачка Анна і сын Рыгор Скепкі. Ад пятніцы склаўся іхні ансамбль для выступлення! Тыдзень таму даведаліся пра конкурс, само тата з мамай снедалі: «Можа, паедзем?». Нервы, кажуць, іх з'ядалі — першы ж раз на сцэне, гэта ж не гасціна ў хаце за сталом! Будуць спяваць далей! А і ўнукаў у іх пяцёра, можа, далучацца?



Галена Каменская і Якуб Федарук з Козлікаў

У катэгорыі «прадстаўнікі аднаго пакалення» дуэты, трыо і квартэты: першае месца занялі сёстры Астапчук з Грабаўкі, другое: дуэт Анна Пятроўская і Юстына Садоўская, трэцяе: дуэт Каліса і Дар'я Пятроўскія з Беластока. Сярод «прадстаўнікоў двух пакаленняў» дуэтаў, трыо і квартэтаў: вылучэнне — сям'я Харужых з Грабаўкі, трэцяе — Галена Каменская і Якуб Федарук з Козлікаў ды Анна, Каліса і Дар'я Пятроўскія і Юстына Садоўская з Беластока, другое — сямейнае трыо «Мама і сыночкі» з Міхалова ды сям'я Скепкаў са Звадзецкага; першае месца — квартэт Васькоўскіх з Беластока ды дуэт Люба Гаўрылюк і Ала Каменская з Козлікаў. Гран-пры атрымала трыо з Бельска-Падляшскага — Лідзія, Марта і Магдаліна Маліноўскія. Сярод вакальных і вакальна-інструментальных калектываў на першым месцы апынуліся сямейныя калектывы «Гаварыла маці спяваці» з Беластока ды сямейны калектыў «Гармонь» з Ласінкі.

Прафінансаваць мерапрыемства дапамаглі Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі Польшчы і Маршалкоўская ўправа Падляшскага ваяводства.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**



Павел Калоднэр

# Калоднэр з Калодна

**Званю да народжанай у Калодне востраўскай матушкі Людмілы Клімук з запытаннем пра сям'ю Калоднэраў. Аказваецца, такога прозвішча яна ніколі не чула. Даведаўшыся, што патомак калодненскіх Калоднэраў збіраецца наведаць яе родную вёску, хутка тэлефануе сям'і і просіць прыняць гасцей.**

Павел Калоднэр з'язджае на бацькаўшчыну ўпершыню, якраз на свята Сукот — па-нашаму Кучкі. У гэтым годзе адзначаецца яно з 15 да 22 кастрычніка. Гэта сёмае, апошняе свята, падоранае ізраільцянам самым Богам. Кулінарнае свяшчэннадзеянне, абавязкова з лімонам, адбываецца ў малых драўляных паветках, пабудаваных у прыхатнім агародзе. Кучкі сімвалізуюць палаткі, у якіх цягам сарака дзён пражывалі яўрэйскія бежанцы з Егіпта. Галіна Матэйчук з Гарадка яшчэ помніць гарадоцкія кучкі. Адна стаяла на панадворку суседзяў — бацькоў сяброўкі, чарнавокай Рыфкі. Цікавая свету Галіна ўвайшла ўсярэдзіну і перапалохалася. Цёмная, цесная прастора выклікала ў дзіцячай галаве самыя страшныя ўяўленні.

Выхад Паўла Калоднэра больш за саракадзённы, перадаваны з пакалення ў пакаленне. Мабыць, на бацькаўшчыну не вернуцца ніколі ні ён, ні яго дзеткі. Чаму?

Часткова таму, што гэты кароценькі візіт зразу яго ўсвядоміў, што тут даўно пра Калоднэраў забылі. Яшчэ абавязковы здымак з дарожным знакам «Калодна». Другі — задам да камеры, а перадам да ўказальніка па другім баку вуліцы «Калодна — канец». На гэтым апошнім здымку Павел адыходзіць. Ніякага Калодна для яго ўжо няма.

У сінагогу Калоднэры хадзілі праўдападобна ў недалёкі Гарадок да рабінаў Шэпсля — адметнага шкаляра, Нісана Бройдэ — сіяніста, раней рабіна ў Коўне, затым яго зяця Абрагама Зэліка Сіёні. Нісана запамяталі як жабрака. Прасіў міласціны ў багатых, каб раздзяліць яе паміж найбяднейшых.

Пачынаючы з другой паловы дзевятнаццатага стагоддзя габрэі з'яўляюцца рашучай большасцю жыхароў прамысловага мястэчка. У іх ліку гадзіншчык Файнзільберг, цырульнікі Абрамскі і Навінскі, вытворца мыла Рочык, пекары Шварц і Любавіч... Доўгі-доўгі спісак гарадоцкіх яўрэйскіх прозвішчаў.

На сайце «Віртуальны штэтл» напісана, што ў Гарадку, адзіным мястэчку ў наваколлі, не занатавалі ніякіх праяў антысемітызму.

Свет мяняецца, Гарадок таксама. «Не перашкаджайце нам, не чапляйцеся, — думаюць мясцовыя, — не хочам грэбціся ў нявыгадным прошлым. Нам важнае толькі сёння, нашае ўласнае, толькі нашае».

Гмінная ўправа ў Гарадку стаіць на месцы колішняй сінагогі. Войт якраз спускаецца па сходах, спяшаецца па справах. Пытаем, ці не захацеў бы павесіць тут інфармацыйную дошку. Наш суразмоўца далёкі ад зацікаўленасці прапанаванай тэмай.

Спадарыня Матэйчук доўгія гады марыць, каб убачыць такую дошку на хаце доктара Цукермана. Цяпер знаходзіцца тут гмінны асяродак здароўя. Яна ўдзячна за выратаванае жыццё. Адзінаму ў наваколлі доктару Цукерману важнейшае за грошы было людскае здароўе. Усё-такі аказаўся здраднік, свой, мясцовы, які данёс нямецкаму акупанту. Забілі доктара. Спадарыні Матэйчук абяцалі, што пры нагодзе рамонту з'явіцца дошка, але дадзенага ёй слова не стрымалі. Вельмі сумна і балюча, не толькі спадарыні Матэйчук, але і іншым, якія яшчэ помняць доктара Цукермана.

У інтэрнэце чытаю, што жыдоўскія магілкі ў Гарадку знаходзяцца па вуліцы Жэмяслічнай. На жаль, яны зусім незаметныя, няма таксама ніякага ўказальніка. За дапамогай звяртаюся да маладых працаўнікоў мясцовага тартака. Прыемная неспадзяванка — хлопцы сарыентаваныя ў тэме! А я надалей блытаюся па лясных дарожках. Выбаўленне надыходзіць у выглядзе пажылога веласіпедыста з сабачкай. Быццам анёл з нябёсаў. Еду яго следам, да самых жыдоўскіх магілак. Мужчына якраз у дарозе на магілу сваёй дачкі, якая памерла пяць гадоў таму. На сам успамін слёзы наплываюць у вочы. Сабаку таксама знайшоў на могілках, пашкадаваў.


Эллі Шапіра і Галіна Матэйчук

Гук і жахлівы, ухапляючы за сэрца сабачы віск. Аўтамабіль амаль праехаў сабаку. Усё адбываецца ў цэнтры Гарадка, на галоўнай артэрыі. Кіроўца — пажылы мужчына — вылазіць з аўтамабіля, абыходзіць яго кругом. Пагоджання не заўважае. Не заўважае і цярпення сабакі. У бок жанчыны з прывяззю ў руках — уласніцы сабакі пасылае пагрозы і букет найбольш нецэнзурных слоў. Тая пакорна маўчыць, бярэ на рукі пацярпелага сабачку і знікае за вуглом. Гэта іншы пажылы мужчына, зусім іншы ад раней сустрэтага. Той з аўтамабіля паслаў бы на смерць не толькі сабаку, але і грукаючага ў яго дзверы марознай ноччу, уцякаючага перад гестапа доктара Цукермана. Без сумнення і без сумлення. Ці гэта вынік несвядомасці свайго прошлага? А жанчына, чаму не абараняла сябе, чаго пабаялася, ці таксама страхаў з прошлага?

Панічна баюся за спадарыню Матэйчук. Прыкаваная да інваліднай каляскі, адважна з'язджае з тратуара на вуліцу. У гэтай хвіліне для яе лічыцца толькі прошлае. Не заўважае людзей ні, тым больш, аўтамабіляў. А мне не хапае сіл, каб паверыць, што людзі за рулём дастаткова ўражлівыя.

— За немцам па тратуары хадзіць не дазвалялі, — тлумачыць яна.

Эллі — даследчыца музыкі штэтлаў з Універсітэта ў Бэрклі (Каліфорнія) здымаецца са спадарыняй Матэйчук і каменем. Вялікі, моцны, палявы камень. Завёз яго сюды сусед-жыд, сказаў, што на мацэву. Мама спадарыні Галіны ніколі не дазволіла, каб яго нехта забраў. Нават на Грабарку не аддала, калі бацюшка на тамтэйшую агароджу каменне збіраў.

Восеньскі, халодны вецер улазіць пад куртку, марозіць яшчэ не адзетыя ў рукавіцы далоні. Грэемся ў заўсёды радай гасцям хаце спадарыні Матэйчук. На стале каробачка з мацай проста з Ізраіля. У Гарадку пяклі смачнейшую. Так прынамсі кажа спадарыня Галіна. Ніколі не забудзе смаку мацы свайго дзяцінства. Ёсць і пірог. Смакуе як колішняя велікодная пасха, толькі напалову ніжэйшы і без літар «ХВ» наверсе. Бабуля спадарыні Матэйчук кожны год дзялілася пасхай з габрэйскімі суседзямі. Раскашуемся таксама непаўторным па смаку чорным хлебам з Беларусі. Гутарым аднachасова на польскай, англійскай і французскай мовах. Усё гэта быццам незвычайны, цудоўны сон пра звычайнасць, павагу да іншага, павагу да самога сябе. Спадарыня Галіна не скрывае радасці, што нехта зацікавіўся і хоча зберагчы гісторыю яе роднай мясціны. Верыць, што ўсё тут наладзіцца. Але ўжо без Калоднэра з Калодна.

**Тэкст і фота Іааннаы ЧАБАН**

## Разам гулялі

У суботу, 22 кастрычніка, у вясковай святліцы ў Чаромсе-Сяле адзначылі Дзень сеніёра. У імпрэзе ўдзельнічалі праваслаўныя святары з Чаромхі-Станцыі айцы Юры Пліс і Мікалай Беламызы, старшыня Раённага аддзялення Саюза польскіх пенсіянераў у Чаромсе Мікалай Янчук з членамі праўлення і шырокае кола пенсіянераў з Баброўкі. Гэтых запрасіла Надзея Унучка, гаспадыня імпрэзы. Чарамшане задбалі аб транспарт для гасцей. Паколькі мерапрыемства зводзілася да пачастунку «з уласным» кошычкам, дык лік мясцовых сеніёраў у параўнанні да мінулага года намнога паменшыўся. Канчаткова ў сустрэчы ўдзельнічала больш за семдзесят чалавек. Святкаванні пачаліся а трынаццатай гадзіне пры дажджлівым і халодным надвор'і. У святліцы гарэў камінак. Застолле праходзіла ў мілай, сяброўскай атмасферы, як бывае



ў згоднай і дружнай сям'і. Сабраліся самі свае. У зале царыла дыска-полевая музыка з ноткай беларускіх, украінскіх і польскіх хітоў. Навінкай былі прэзентаваныя на экране завешаным пад столлю відэа-фільмы, якія дэманстраваліся пры дапамозе праектара. Пра гэта задбаў Здзіслаў Закшэўскі. А пачастунак быў багаты. Усяго было ўдосталь — яды і напояў. Былі і песні пры застоллі. Запявaламі аказаліся Надзея Унучка з Ганнай і Грышам Бацюкамі. Гаспадары мерапрыемства, каб заахвоціць гасцей да спажывання пачастунку, запрашалі іх вясельнымі прыпеўкамі: «іжтэ, гостонькі іжтэ» або, як Надзея Унучка, вірyючы па зале з кілішкам, падспеўвала: «я выпіла, выхыліла, сама сэбэ похвалила, бо я з доброго роду, п'ю горылку як воду». Хутка сцякаў час у вясёлай кампаніі. Але ўсяму добраму бывае канец. Час вяртацца да дамашніх абавязкаў. Трэба мне было распаліць печку цэнтральнага ацяплення, каб абагрэць душу ў прахалоднай хаце. Падзякаваўшы гаспадарам за запрашэнне і гасцінnasць, кідаю перад самым выхадам: да хуткага пабачэння на супольнай імпрэзе!

**Уладзімір СІДАРУК**




Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі


# У пошуках тоеснасці


фота Ганны Кандрацюк

— Хто з вас чытае «Ніву» па-за школай, для прыемнасці?

Першай адазвалася Інэса Гапанюк з трэцяга «а» класа. Інэса разам з класнай сяброўкай Госяй Мацкевіч спяваюць у «Жэмэрве». Там зразумелі, наколькі ім блізкі, сардэчны свет продкаў. Не, тут не ідзе пра «скансэн», тут вучацца быць сабой, шанаваць спадчыну дзядоў.

Гося на сваім фейсбукавым профілі змясціла свой здымак у вышыванцы.

— Дзяўчаты, вазьміце свае тэлефоны, — звяртаецца да іх настаўніца, — пакажыце свой пост на смартфонах.

Глядзім і не верым. На экранах — бел-чырвона-белы сцяжок і Пагоня. Адкуль зацікаўленасць гісторыяй Беларусі? Дзяўчаты часта ездзяць у Беларусь. Часта прыходзіцца ім размаўляць з сябрамі па-руску, але яны ўсе разумеюць гэтую складанасць. Гэта для іх ніякая перашкода ў сяброўстве. Важна як адчуваеш, за каго перажываеш. Любоў да радзімы, гэта пашана для гісторыі, мовы, песні ці прывязанасць да роднай газеты.

У час сустрэчы нашы сябры жыва цікавіліся тэмай кірыліцы, то-бок літарак, на якіх напісаны падручнікі, вершы, «Зорка». Цікавасць падбіла экскурсія на поўдзень Польшчы, дзе гімназісты знаёміліся з гісторыяй хрышчэння Польшчы. Там даведаліся пра значэнне стваральнікаў славянскай азбукі і царкоўнаславянскай мовы, першанастаўнікаў свсв. Кірылы і Мяфодзія. Славянскія прапаведнікі хацелі, каб усе народы пазнавалі Божыя навукі на роднай мове. Менавіта ў іх памяць наша пісьмо называем кірыліцай. З падобным заклікам стагоддзі пазней выступіў Францыск Скарына, які надрукаваў Біблію на старабеларускай мове (за год славуты юбілей). Пытанні пра паходжанне пісьма найбольш зацікавілі дапытлівага Тамаша Астроўскага, а роздумы на тэму радзімай гісторыі працягнула Патрыцыя Нічыпарук, якая з цеплынёй і гумарам расказала пра сваё генеалагічнае дрэва.

На канец урока гімназісты праспявалі нам «Многая лета». Яны таксама заявілі, што цэлы вялікі іх клас падпісаўся на «Ніву».

**Зорка**

*Міра ЛУКША*

## Ажына

*Калючая ажына*
*раскінула голле,*
*чэпкімі галінамі*
*абхапіла поле.*
*Ягады пакорна*
*ў кароне калючай*
*узгадуе чорныя:*
*у фіялет зялёныя,*
*у чорны з фіялету*
*выспельвае, плённая,*
*ягады за лета.*
*Пакутны, балючы*
*сімвал яна жалю.*
*Але за мацунак*
*ўсе ажыну хваляць:*
*бомбай вітамiннай*
*лічыцца ажына,*
*у благую гадзіну*
*памагчы павінна.*
*Но бойся ажынавых*
*шыпоў у агародзе.*
*Прыгарні расліну*
*як сястру ў прыродзе!*

## Як Хожа схаваўся ад сораму?
*(казкі народаў Каўказа)*

Аднойчы ў дом Хожы закраліся зладзеі. Сталі яны шнырыць па гаршках, паліцах, заглянулі пад падушку. Сам Хожа, калі пабачыў злыдняў, — бах!, — заскочыў у сундук.

Сядзіць і не дыхае.

Абшукалі зладзеі ўсе закуткі і апрача дзіравага кацялка нічога не знайшлі. Рашыў яшчэ адзін злодзей заглянуць у сундук. Можа там нешта вартаснага знойдзе?

Падняў ён накрыўку і не верыць. У куточку Хожа хаваецца.

— А ты што тут робіш? — спытаў злодзей.

— Сяджу і згараю ад сораму!

— Як гэта... згараеш?

— Як пачуў, што вы зайшлі ў мой дом, дык прыгадаў, што нічога ў мяне вартаснага няма, — прамовіў вінавата Хожа. І дадаў: — Вось і ад сораму схаваўся ў сундук!

**(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)**

Альжбета ХАРКЕВІЧ
Новая Лука, ПШ у Нараўцы

## Кошкі

Маю дзве кошкі.
Кошкі дзве
шэрыя, бурыя, абедзве.
Кожная любіць мышку з'есці,
Часам у гладышку
з малаком улезці.
Любяць яны малако піць,
а вострыя кіпцікі
у скуру ўбіць

## УВАГА КОНКУРС! № 44-16

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 12 лістапада 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Што за кола, што за кола?**
**Шмат жывёл стаіць наўкола.**
**Коні поні і гепард,**
**Слон, вярблюд і леапард.**
**Селі дзеці на звяроў:**
**— Ну браток, бывай здароў!**
**І такі ўзялі разгон —**
**Толькі вецер наўздагон.**
**К.......**

**(У. Мацвеенка)**

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 41: морква. Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі Вікторыя Гаць, Габрыеля Калішук, Дамінік Врублеўскі з Бельска-Падляшскага, Наталля Гайдук, Віктар Лінк з КШ № 1 у Гайнаўцы. Віншуем!**

# Каханне і родная мова

Фота Ганны Кандрацюк

— Што найбольш здзівіла цябе ў сямейнай гісторыі? — пытаем у бельскай гімназісткі Патрыцыі Нічыпарук.

— Тое, што ядро майго роду ў Баратынцы-Рускім на Сямятыччыне. Калісь, калі дзяўчына выходзіла замуж, яна ішла жыць у хату мужа. Продкі па лініі бацькі жылі ўвесь час у адным сяле. Да іх далучаліся дзяўчаты з іншых мясцовасцей і так будаваўся род.

Сапраўды, Патрыцыя прыкмеціла асноўную рысу падляшскабеларускай радаслоўнай. Мы ўсе, хоць жывем у Беластоку ці Бельску, маем свае вясковыя радзімы. Звычайна гэта месца адкуль родам бацька. Па ім атрымліваем у спадчыну прозвішча і дыялект.

Як можна пазнаць свае карані?

Патрыцыя Нічыпарук, па прапанове сваёй настаўніцы беларускай мовы Валянціны Бабулевіч, склала генеалагічнае дрэва. Дайшла ажно да пятага пакалення і зараз яна першы *эксперт* у хаце. Пытанні, якія ставіла родным, надта пашырылі яе асабістую тэрыторыю і раскрылі сямейныя сакрэты.

Першая задача — спалучыць усе мясцовасці, з якіх выводзіцца род. У Патрыцы Нічыпарук гэта Бельск-Падляшскі, Курашава, Падрэчаны, Баратынец-Рускі, Сямятычы, Бацікі-Сярэднія, Вулька над Бугам. Вельмі прыемным для яе было адкрыццё сваяцтва з вядомым родам падляшскіх свяшчэннікаў Місеюкоў. Не менш уразіла яе гісторыя знаёмства бацькоў. Яе мама паехала вучыцца ў Бельск-Падляшскі. Там у яе з'явіліся новыя сяброўкі. Аднойчы сяброўка запрасіла яе да сябе ў госці ў Баратынец-Рускі. Дзяўчаты, вядома, пайшлі на вясковую забаву. Там маці нашай гімназісткі пазнаёмілася з будучым мужам.

— Мой тата гаварыў у хаце з роднымі па-польску, — адзначае Патрыцыя. — А мама, наадварот, яна гаварыла толькі пасвойму. Дык бацька, каб больш спадабацца каханай і яе сям'і, хуценька вывучыў нашу мову. Ён не хацеў, каб у сям'і мамы з яго смяяліся, — дадае на жартоўнай ноце Патрыцыя.

Яе аповед захапіў класных сяброў, якія ахвотна ўзяліся выконваць ролю асістэнтаў і дапамагалі трымаць дрэва-планшэт, прыаздоблены разнаколерным кляновым лісцем і насеннем. Ад гукавога падабенства на вусны ціснулася слоўца «клан». Усе думалі пра незвычайнае каханне, якое абудзіла любоў да беларускай мовы.

**ЗОРКА**

## Вершы Віктара Шведа



### Чаму плачаш, сынок?

– Чаму плачаш так, сынок?
Адказвае малец:
– Тату ўдарыў малаток,
Скалечыў яму палец.

– Ты смяяцца тады мог,
Было бы іначай.
– Гэта я зрабіў, дальбог,
Таму цяпер плачу.

### Падбіваюць каням ногі

Пачуўся як на дачы
У вёсцы малы Лёня.
Сказаў: – Я сёння бачыў
Тут рамантуюць коней.

І розных тут дэталяў
Я ўгледзеў многа.
І тое, што падбівалі
У кузні каню ногі.

## Замкі і палацы Беларусі

### ЗАМАК У ЛЮБЧЫ — МЕСЦА АСВЕТЫ І РАМАНТЫЧНЫХ ЛЕГЕНД



Замак у Любчы — невялічкі, камерны. Ён высіцца на беразе Нёмана, дзе зімой і летам выседжваюць рыбакі. У мурах старажытнай будоўлі закладзена памяць пра мінулую славу гарадка. Любча ў часы рэнесансу явілася найбольш пісьменным месцам у Рэчы Паспалітай. Тут працавалі друкарні і выдавецтвы, а шматлікія крамы прыцягвалі купцоў кніг з усёй Еўропы. Любча была таксама цэнтрам арыян і асацыявалася з вальнадумствам, свабодай і еўрапейскай культурай...

Якраз у другой палове шаснаццатага стагоддзя, у гады залатой славы, быў збудаваны замак. Належаў ён уласніку гарадка, магутнаму магнату Яну Кішку. Дзякуючы яго стараннем, Любча атрымала магдэбургскія правы і свой герб.

Першы будынак замка быў драўляны, забяспечаны каменнай брамай з чатырохпавярховай вежай з нішамі для стральцоў. Аднак ужо напярэдадні чарговага стагоддзя новы ўласнік Любчы князь Мікалай Радзівіл грунтоўна перабудаваў крэпасць. Яна стала поўнасцю каменнай і папоўнілася яшчэ трыма вежамі.

Замак цягам стагоддзяў мадэрнізаваўся, аж у канцы XIX стагоддзя набыў выгляд палаца ў стылі англійскай неаготыкі, з невялічкімі вежамі па баках.

З месцам звязаная рамантычная легенда. Нібыта ў гэтым месцы князь Міндоўг убачыў прыгажуню, у якую закахаўся з першага погляду. Спецыяльна для каханай легендарны князь збудаваў пасёлак, які ў памяць іх рамантычнай сустрэчы людзі сталі называць Любчай.

(гак)

## Польска-беларуская крыжаванка № 44-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 40:**

Загад, ух, бокс, збанок, турнір, бак, фа, порт, тур. Звук, зубр, брат, банк, коні, Корфу, піск, ар.

Узнагароды, беларускія сшыткі, выйгралі **Міхал Троц**, **Вольга Несцярук**, **Дам'ян Карнілюк**, **Габрыеля Карнілюк**, **Марта Белаказовіч**, **Дамінік Врублеўскі**, **Амелія Васільчук** з Бельска-Падляшскага, **Лідзія Бараніч**, **Сабіна Грыгарук**, **Міхал Ручынскі**, **Малгажата Галёнка**. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Krzak | Autor / Zgaga | | | Drobnica / Jer | | | Broda |
| As / Dźwięk | Kołnierz | | | | | | | Dąb / Kot | |
| Gust / Góra | | | | | Rzeka | | | | |
| | | | | | Gęś | Bok / Pokój | | | |
| | | | | | Mięta / No | | | | |
| | Armatura | Aktor | | Dół | | | | | |
| | | | | | | | | Blokada | |

## Летапіс гурту «Маланка»

# Яны дасягнулі сваіх мар

**На Падляшшы, а дакладней на Беласточчыне, дзейнічае паспяхова многа беларускіх аматарскіх калектываў, якія за сабой маюць вялікі стаж. Удасканальваюць, узбагачаюць, аднаўляюць свой рэпертуар. Папаўняюцца новымі членамі — артыстамі. Аб адным з такіх узорных калектываў хачу падзяліцца сваімі ўражаннямі, успамінамі, радасцю.**






**Калектыў беларускай песні „Маланка”** дзейнічае з 1990 года ў Бельскім доме культуры ў Бельску-Падляшскім. Сёння налічвае ён 14 асоб, у гэтым 9 асоб спявае ў вакальнай групе — 6 жанчын і 3 мужчыны і 5 асоб іграе ў інструментальным калектыве ў складзе: I акардэон, II акардэон, скрыпка, бас-гітара і перкусія. Патранат над калектывам узяў Музей малой бацькаўшчыны ў Студзіводах.

Заснавальнікам калектыву і пастаянным мастацкім кіраўніком з'яўляецца Сяргей Лукашук — былы многагадовы дырэктар Бельскага дома культуры. Творчая біяграфія гэтага выдатнага музыканта і педагога распачалася ў палавіне 60-х гадоў XX стагоддзя.

Калектыў „Маланка” выконвае ў першую чаргу народныя і аўтарскія беларускія песні, а таксама застольныя, якія дараць людзям радасць, выклікаюць суперажыванне, прымушаюць задумацца, пра якія не адно пакаленне можа сказаць: „Гэта нашы песні”.

На працягу 26-гадовай дзейнасці, калектыў правёў больш чым 550 канцэртаў. „Маланка” выступала практычна на ўсіх аўтарытэтных мерапрыемствах у Падляшскім ваяводстве, ва ўсёй краіне і за мяжой. У 1993 годзе прэзентавалася на Свяце Еўропы ў Сен-Ламбер-дзю-Латэ ў Францыі, а ў 1993 і 1995 гадах у Бад-Эсен у Нямеччыне. У 1995 годзе прымала ўдзел у I Міжнародным фестывалі фальклору ў Пінску і II Міжнародным фестывалі народнай музыкі „Звіняць цымбалы і гармонік” у Паставах на Беларусі. У 2004 годзе канцэртавала ў Расіі падчас святкавання 75-годдзя Маскоўскай вобласці. У ліпені 2011 года ўдзельнічала ў I Фестывалі культуры беларусаў свету ў Мінску і Віцебску. Тады міністр культуры Рэспублікі Беларусь падарыў калектыву дывановую ікону св. Еўфрасінні Полацкай, якую 13 лістапада 2011 года члены Калектыву ўрачыста перадалі Дому праваслаўнай культуры ў Бельску-Падляшскім.

У 2012 годзе „Маланка” прымала ўдзел у абласных элімінацыях Фестывалю калектываў народных меншасцей Брэсцкай вобласці ў мясцовасці Маларыта. У 2014 г. выступала таксама на Беларусі — на Фестывалі „ІграЙ гармонік, звіні прыпеўка” ў Парэччы Пінскага раёна і на „Пiліпаўскіх вячорках” у Магдаліне каля Кобрына.

„Маланка” прадстаўляла беларускую меншасць на краёвых фэстывалях, м. інш. на аглядах калектываў нацыянальных і этнічных меншасцей у Гданьску, Варшаве, Пуньску, Свебадзіне і Дабрадзені. У 1996 годзе была ўдзельнікам XXXIII Тыдня культуры Бескідаў, прысутнічала таксама на Фестывалі карпацкай музыкі „На памежжах Санок-96”.

У 2004 годзе „Маланка” выступіла ў Кангрэсавай зале Палаца культуры і навукі ў Варшаве для дэлегатаў і гасцей XII Краёвага з'езда дэлегатаў хлебаробаў, сельскагаспадарчых гурткоў і арганізацый, а ў 2005 годзе на IV Еўрапейскіх прыбужскіх фальклорных сустрэчах у Сакалове-Падляшскім, дзе атрымала ўзнагароду маршалка Мазавецкага ваяводства. Канцэртавала таксама на Міжнародным фестывалі „Крэсавая фрыбольная прыпеўка” ў Чорнай-Беластоцкай, здабываючы і тут узнагароду. У 2008 годзе „Маланка” ўдзельнічала ў III Міжнародным фестывалі фальклору „Падляшскія сустрэчы” ў Бельску-Падляшскім. У 2009 годзе Калектыў выступаў для каля 2 тысяч дэлегатаў з шасцідзесяці краін свету ў час XCIV Сусветнага кангрэса эсперанта ў Беластоку. З'яўляецца таксама шматразовым лаўрэатам Агульнапольскага фестывалю „Беларуская песня” ў Беластоку.

У 2010 годзе падчас канцэрта з нагоды юбілею 20-годдзя мастацкай дзейнасці „Маланкі” міністр культуры і нацыянальнай спадчыны Польскай Рэчы Паспалітай узнагародзіў калектыў ганаровай адзнакай „Заслужаны для польскай культуры”. 25 красавіка 2015 года — калі „Маланка” святкавала свой юбілей 25-годдзя мастацкай дзейнасці — маршалак Падляшскага ваяводства ўручыў калектыву „Ганаровую адзнаку Падляшскага ваяводства”. „Маланка” з гонарам апраўдоўвае гэтыя званні ў чарговых канцэртах.

І гэта яшчэ не ўсё. За перыяд 26-гадовай дзейнасці калектыў выдаў 6 аўдыякасет і 4 кампакт-дыскі, на якіх запісаны 142 беларускія песні. „Маланка” часта прэзентуецца на Польскім радыё і Тэлебачанні Беласток, а таксама Радыё „Рацыя”. Двойчы выступала ў праграме TVP3 „Этнічныя кліматы”.

Дзейнасць калектыву фінансава падтрымлівае Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі а таксама бургамістр Бельска-Падляшскага.

**Удзел Калектыву „Маланка” у канцэртах у 2015-2016 гадах.**

— *525 канцэрт.* 7.02.2015 г. Раённыя элімінацыі XXII Агульнапольскага фестывалю „Беларуская песня — 2015” у Бельску-Падляшскім. Вынік элімінацыі: I месца — калектыў; I месца — дуэт: Анна Паплаўская і Святлана Кобус; II месца — салістка Лідзія Маліноўская; II месца — жаночая група; вылучэнне — мужчынская група.

— *526 канцэрт.* 13.02.2015 г. Карнавальны канцэрт „Бельскія мастацкія кліматы” ў Бельскім доме культуры.

— *527 канцэрт.* 15.02.2015 г. Цэнтральныя элімінацыі XXII Агульнапольскага фестывалю „Беларуская песня — 2015”. Вынік элімінацыі: I месца — калектыў; II месца — салістка Лідзія Маліноўская; III месца — дуэт Анна Паплаўская і Святлана Кобус.

— *528 канцэрт.* 19.02.2015 г. Гала-канцэрт XXII Агульнапольскага фестывалю „Беларуская песня — 2015” у Падляшскай оперы і філармоніі ў Беластоку.

— *529 канцэрт.* 25.08.2015 г. 25 гадоў дзейнасці калектыву „Маланка”. Юбілейны канцэрт у Бельскім доме культуры.

— *530 канцэрт.* 24.05.2015 г. „Дні славянскага пісьменства” на ратушнай плошчы ў Бельску-Падляшскім.

— *531 канцэрт.* 27.05.2015 г. Гала-канцэрт з нагоды 25-годдзя дзейнасці тэрытарыяльнага самакіравання, арганізаваны маршалкам Падляшскага ваяводства ў Падляшскай оперы і філармоніі ў Беластоку.

— *532 канцэрт.* 30.05.2015 г. Дні Бельска-Падляшскага ў парку Плянты.

— *533 канцэрт.* 6.06.2015 г. „Дзень нацыянальных і этнічных меншасцей” у Тымкове каля Ольштына. Багаты канцэрт беларускай песні па запрашэнні Ольштынскага таварыства нямецкай нацыянальнай меншасці.

— *534 канцэрт.* 21.06.2015 г. XIII Спартакіяда інвалідаў Бельскага павета, сарганізаваная Аб'яднаннем дапамогі інвалідам „Шанц” на тэрыторыі сямейных агародаў „Бельская зямля”.

— *535 канцэрт.* 18.07.2015 г. XV Бандароўская гасцёўня ў Бандарах Міхалоўскай гміны.

— *536 канцэрт.* 25.07.2015 г. XIII Белавежскія мастацкія інтэграцыі „Пэрэточэ-2015”, арганізаваныя Фондам „Царкоўная музыка” ў амфітэатры ў Белавежы.

— *537 канцэрт.* 8.08.2015 г. XXI „Спасаўскія запусты” ў амфітэатры ў Бельску-Падляшскім.

— *538 канцэрт.* 29.08.2015 г. „Развітанне з летам” у амфітэатры ў Бельску-Падляшскім.

— *539 канцэрт.* 30.08.2015 г. XXI Фестываль польскай і беларускай песні „Беласток — Гродна” ў парку Плянты ў Беластоку.

— *540 канцэрт.* 6.09.2015 г. VII Міжнародны фестываль крэсавай культуры „Яраслаў-2015”. Па запрашэнні Таварыства Львова і паўднёва-ўсходніх крэсаў калектыў выступіў з канцэртам, які доўжыўся больш за гадзіну.

— *541 канцэрт.* 13.09.2015 г. Беларускія дажынкі ў Рыбалах Заблудаўскай гміны.

— *542 канцэрт.* 8.11.2015 г. „Асеннія сустрэчы з беларускім фальклорам” у Чыжах.

— *543 канцэрт.* 15.11.2015 г. XII Міжнародныя сустрэчы нацыянальных і этнічных меншасцей у Пуньску.

— *544 канцэрт.* 22.11.2015 г. III мерапрыемства „Нашы песні” ў Бельскім доме культуры.

— *545 канцэрт.* 30.11.2015 г. Канцэрт для групы з 40 турыстаў з Францыі ў Бельскім доме культуры .

— *546 канцэрт.* 05.02.2016 г. Карнавальны канцэрт „Бельскія мастацкія кліматы” ў Бельскім доме культуры.

— *547 канцэрт.* 06.02.2016 г. Раённыя элімінацыі XXIII Агульнапольскага фестывалю „Беларуская песня — 2016” у Бельску-Падляшскім.

— *548 канцэрт.* 28.02.2016 г. Цэнтральныя элімінацыі XXIII Агульнапольскага фестывалю „Беларуская песня — 2016” у Беластоку.

— *549 канцэрт.* 11.03.2016 г. Гала-канцэрт XXIII Агульнапольскага фестывалю „Беларуская песня — 2016” у Падляшскай оперы і філармоніі ў Беластоку. Удзел салісткі Лідзіі Маліноўскай.

— *550 канцэрт.* 04.06.2016 г. „Дні Бельска-Падляшскага”.

— *551 канцэрт.* 16.06.2016 г. XXXI Свята беларускай культуры ў Беластоку.

— *552 канцэрт.* 25.06. 2016 г. Свята „Купальночка” ў Ляневе Чыжоўскай гміны.

— *553 канцэрт.* 23.07.2016 г. Канцэрт у Мілейчычах з нагоды 500-годдзя прысвоення мястэчку гарадскіх правоў.

— *554 канцэрт.* 23.07.2016 г. Беларускі фэст у Бaціках-Бліжэйшых Сямятыцкай гміны.

— *555 канцэрт.* 06.08.2016 г. „Беларускія фольк-сустрэчы” ў Міхалове.

— *556 канцэрт.* 13.08.2016 г. XXII Спасаўскія запусты ў амфітэатры ў Бельску-Падляшскім.

— *557 канцэрт.* 28.08.2016 г. „Развітанне з летам” у Бельску-Падляшскім.

— *558 канцэрт.* 28.08.2016 г. Беларускі фэст у Дубічах-Царкоўных.

— *559 канцэрт.* 18.09.2016 г. „Свята вёскі” ў Раманаўцы Сямятыцкай гміны.

— *560 канцэрт.* 2-3.10. 2016 г. Юбілей 25-годдзя калектыву песні і музыкі „Зараніца” Магдалінскага дома культуры ў Магдаліне каля Кобрына на Беларусі ў час Свята традыцыйнай культуры „Золото полей”. Візіт у адказ за ўдзел „Зараніцы” ў 2015 годзе ў юбілейным канцэрце 25-годдзя „Маланкі”.

Слаўная „Маланка” заўсёды ў творчым уздыме. Выконвае яна песні родныя: вясёлыя і сумныя, жартоўныя і сур'ёзныя. Усе яны прывабныя і чароўныя. Спявае песні родныя, бо песні родныя — гэта далікатныя кветкі, што растуць на працягу стагоддзяў на ніве, палітай не толькі ранішняй расой, але і горкімі слязамі. Гэтыя песні адвечныя, трывалыя, несмяротныя, як душа народная.

Песні і музыка „Маланкі” гэта сукве́цце талентаў мастацкага кіраўніка і яе членаў, а таксама багацце ўсіх нас — наша радасць. Кожнае выступленне калектыву — гэта мастацкая падзея, свята для душы. Яго песні — гэта наш фальклор, наша спадчына — карані роднай зямлі, без якіх жыццё марнее, слабее нацыя. „Маланка” дасканала падтрымлівае і ўзбагачае атрыманую ў спадчыну аграмадную песенную культуру.

Усё, што зроблена калектывам — гэта плённы засеў, які радуе людзей. „Маланка” выступае, як заўсёды ў сваёй стыхіі, з поўнай артыстычнасцю, арыгінальна, узнёсла і бойка, не даючы спакою рукам слухачоў. Брава!

**Віктар БУРА**

6 кастрычніка 2016 года

# Паэтычны вечар у Ляўкове


Фота Міры ЛУКШЫ

■ Злева: Кастусь Целушэцкі, Мікалай Варанецкі, Галіна Бірыцкая, Зоя Майстровіч, Вера Радзіванюк, Уладзімір Сасна, Зося Сачко, Тадэвуш Кунцэвіч і Аляксандр Радзіванюк

У пятніцу, 7 кастрычніка, у старaляўкоўскай святліцы адбылася літаратурная вечарына, у час якой свае творы прэзентавалі мясцовыя творцы, з Нараўчанскай гміны, ды запрошаныя літаратары з Арлянскай гміны. Сабраных прывітала дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы **Галена Рэент**. Затым голас узяла дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Орлі **Анна Несцярук**, прадстаўляючы сваю літаратурную дружыну ды зборнічак вершаў „Літаратурныя вечарыны” паэтаў з наваколля Орлі. У госці ў Ляўкова прыехала моцная арлянская літаратурная каманда: народжаная ў Вульцы Зося Сачко, Зоя Майстровіч з Рудут ды Уладзімір Сасна з Пашкоўшчыны. Мясцовых творцаў прадстаўлялі Вера Радзіванюк і ейны сын Аляксандр з Міхнаўкі, Галіна Бірыцкая з Плянты, Мікалай Варанецкі з Альхоўкі, Кастусь Целушэцкі з Новага Ляўкова ды Тадэвуш Кунцэвіч з Лешукоў. Паэты заселі за сталом, за якім былі развешаны ручнікі, вышытыя менавіта Галінай Бірыцкай.

Першым запрэзентаваў свае вершы **Уладзімір Сасна** з Пашкоўшчыны. Ягоная паэзія цёпленька апісвае ўсе праявы нашага тутэйшага сялянскага жыцця. Пачаў ён выступленне традыцыйнымі пажаданнямі:

*Жывіце доўга і трудзіцесь,*
*жыццём сваім ўсё весяліцесь.*
*Сто гадоў дажыць жадаем;*
*як пераживеце гэту сотню мы вам другую маем.*
*Аставайцесь доўга ў пары*
*і жывіце ў згодзе.*
*І прыміце пажаданні*
*ад Сасны Валодзі.*

Была, як гэта ў нашых класікаў завялося, і сціпленькая інвакацыя:

*Тутэ я родійся*
*й тут моя ойчызна,*
*назва ўсэ остаеця:*
*сэло Пашкоўшчызна.*
*Тіешыўсе ўсё жыцем,*
*хоч разна была доля.*


Фота Міры ЛУКШЫ

*Усэ трымаўсь загона*
*і нэ кідаў поля*

І рыфмаваны ўспамін:

*Ў одну й другу сторону гляну:*
*ўжэ тут і чоловіека мало дэ застану.*
*Ўсё тут погасае як у пэчы дрова,*
*нэ бэчыт овэчка і нэ йдэ корова*
*...*
*Марта йшла да Грыпы,*
*Грыпа да Параскі,*
*расчыніці хлеба*
*каб дала закваскі.*
*...*
*Як всіе нараз закурат,*
*Параскі нэ відно.*
*Але так было прынято*
*і нікому нэ ўстыдно.*
*...*
*Тут Алёша прыгрываў*
*на свaёй гармошцы,*
*як то радасна было*
*тагды ў нашай вёсцы...*

**Зоя Майстровіч**: — Пачала я пісаць позна, у 55. Унукі мяне намовілі. Пісала пра тое, што мяне акружае, пра прыроду, птушкі, чатыры поры года і ўсё тое, што сваімі вачамі бачу і душою чую. І ўсе мае вершы просценькія, бо маё жыццё простае. У школе я і не думала, і ў снах не снілася, што я буду пісаць. Ужо маю тысячу дзвесце вершыкаў, маю апавяданні, маю байкі для дзяцей, і для дарослых. Пішу легенды, якія ведаю. І песень запісала больш як дзвесце, якія калісь з дзяўчатамі спявалі. Мае вершы з жыцця ўзятыя, яны надоўгія. Калісь мы ехалі ў Тапаркі, адкуль я родам. Я ж тудою сотні разоў ездзіла, таей дарогай, і ніколі мне не падумалася, каб напісаць такі нармальны вершык. А то пакуль мы заехалі да такой граніцы, што між Тапаркамі і Рудутамі, то я ўжо ўлажыла сцішок і не маю чым запісаці. І думаю: пакуль я заеду ў Тапаркі і пакуль вярнуся, то забуду яго. Да мяне мой Вася гаворыць, а я маўчу; трошкі адкажу і ўсё маўчу. Вярнулася я дадому, нічога не гавару, хутчэй запісала той сцішок і тады стала гаварыць; кажу: цяпер мы можам пагаварыць, бо я маўчала таму, што сцішок такі ўлажыла.

*Там дзе былі палі*
*хвайнякі цяпер павырасталі.*
*Няма каму працаваць на зямлі,*
*людзі маладыя ў горад жыці павыязджалі...*

**Зося Сачко**: Про нашых люді, которы робілі поле, любілі роботу...

*шатаеця гуоле на віетрові*
*якая піесня у нэбі*
*чэрэз остатне лісціе*
*а у Вуольці*
*шчэ мусіт сідят на лавочках*
*і нібы молодость хватают*
*отуліўшысь сонцём*
*і так*
*ой якая забота*
*ой якая тоўкота*
*нічого нічого*
*склеп прыйедэ*
*прыйедэ*
*і ў сіем*
*і ў вуосім*
*ой як добрэ*
*як добрэ*
*нэ опоздалі*
*нэ пэрэспалі...*
** * **
*як у сколочоную водіе*
*заўтрашні дэнь одкрывае ўчорашні*
*колі ты жывы*
*допускаеця кажда ўстрієча*
*і кажда хітрость*
*помоўчыш — тяжке слово*
*а ў кого душа на ные*
*дэнь просты*
*як з рэцэпты мікстура*
*ты віер як хоч*
*шукай собіе подуобных*
*ошукуйся*
*нэсі стішка п'яну думку*
*пэрэходь в память*
*і ў камэнь*
*прымі лад свіета*
*і — зойді з ума*

**Вера Радзіванюк**:

*Сяджу і думкі свае перабіраю,*
*як бы кніжкі перакідывала лісты.*
*І ўспомнілася мне маладасць мая,*
*шчаслівыя вясёлыя дзянькі.*
*...*
*Прапала маладасць і песні,*
*прапалі радасць і цяпло.*
*Пранеслісь лета маладыя,*
*як лісце ветрам панясло...*

**Галіна Бірыцкая**:

*Павесь ручнік на іконе святой,*
*вышыты свой,*
*у хатнім куточку,*
*на іконе святой.*
*Тады ікона хараством ажыве,*
*ласкі і радасці гэтай хаце дадае...*

**Мікалай Варанецкі**:

*Нашы вёскі апусцелі,*
*вось якое стала ліха:*
*у драўляных людных хатах*
*цяпер стала ціха-ціха...*

Прынагодна Галена Рэент дадала, што Мікалай Варанецкі з'яўляецца аўтарам тэкстаў некалькіх песень, да якіх музыку напісаў Мікола Мяжэнны. Дадала яшчэ, што ляўкоўская „Цаглінкі” выспявалі гран-пры на XVII Агульнапольскім аглядзе мастацкага руху сеніёраў у Влацлаўку. Прадстаўлялі там не толькі Нараўчанскую гміну, але таксама Гайнаўскі павет і Падляшскае ваяводства. Гэта нам вялікі гонар. Там „Цаглінкі” заспявалі, м.інш. „Семяноўскую чайку” на словы менавіта Мікалая Варанецкага.

**Кастусь Целушэцкі**:

*Калі сталі з лясніччым аддаляцца,*
*давай да сябе прытуляцца.*
*Падыйшлі яны да даліны —*
*кругом спелыя вялікія маліны...*

**Тадэвуш Кунцэвіч**: — Вы, слухачы, паселі прынамсі пярэдам да ручнікоў, а мы паселі да іх задам, быццам яны нам нічога нявартыя. А гэта не так.

*Якой пашаны ты дастаў, ты — з простае кудзелі,*
*як вужом плечы апасаў маршалку на вяселлі.*
*У хаце вісіш у кутку, ікону аздабляеш*
*і славіш нашу Беларусь; ці ты аб гэтым знаеш?*

Пра іншае:

*П'ю як воду, шчэй салодку,*
*нават сплючы бачу водку*
*...*
*Адзін лычак, другі, трэці —*
*як прыемна жыць на свеце!*
*Месяц свеціць, зоркі ззяюць,*
*чую — пеўні ўжо спяваюць.*
*Што зрабіць? Судзьба такая*
*і бутылка ўжо пустая...*

Быў і працяг наконт гэтага верша: — Быў я на такой паэтычнай сустрэчы ў Крыўцэві. І так чытаю, між іншым гэты верш, а паколькі напісаны ад першай асобы, то такая бабця, што там сядзела ў першым радочку, калі я скончыў, тады яна да мяне так звярнулася: *Пане Кунцэвіч, а даўно то было, жэ Вы так папілі? Не, нядаўна, мо з месяц таму*, — адказваю. А яна размашыста перажагналася: *Божа, добра што Вы не ўтапіліся, бо хто нам вершы пісаў бы.*

**Аляксандр Радзіванюк**:

*Tylko Puszcza jest inna,*
*nie taka jak była.*
*Swój leśny blask*
*na zawsze straciła.*
*Stoją świerki brązowe,*
*dzikim prawem chronione.*
*Kto im krzywdę tę zrobił,*
*zawiniły czym one?*

Галена Рэент паведаміла, што зборнікі вершаў мясцовых паэтаў, якія выдала аб'яднанне „Сторчык”, атрымалі міжнародны стандартны кніжны нумар (англ.: International Standard Book Number, скарочана — англ.: ISBN), у выніку чаго гэтыя зборнікі трапілі ў фонды Нацыянальнай і ўсіх ваяводскіх бібліятэк у Польшчы і іх можа прачытаць любы аматар паэзіі. У гэтае паведамленне ўключыўся спадар Сасна: *З сёго ано дым пуойдэ, як праўнукі добэруццэ — і пойшло ўсё.*

Публікі было шмат, больш чым прадбачвалі арганізатары; трэба было дастаўляць крэслы. І ўсе вершы слухачы ўспрымалі шчырымі апладысментамі.

Аляксандр ВЯРБІЦКІ

# Залатая гадзіна Тадэвуша Дарошкі

Архідыяцэзіяльны архіў і музей у Беластоку запрашаюць на «Сентыментальнае падарожжа» з Тадэвушам Дарошкам, заўзятым фатографам, музыкам па прафесіі.

Вялікі фармат, захапляльна-нерэчаісныя колеры. Складаецца ўражанне, што гэта не здымкі, але карціны, намаляваныя шалёным ад шчасця альбо з яго недахопу мастаком. Жыва-сінія, жыва-ружовыя, востра аранжавыя, характэрныя індусам, расіянам, халтурныя — паўночна-заходнім беларусам. Адна, чыстая натура. Уяўленні нашых прынараўскіх вёсак, сярод якіх Кожына, Канюкі, Целушкі, Козлікі, Соцы, Пухлы, ранішні туман над скітам у Адрынках.

На адной з музейных сцен побач сябе тры зусім розныя сцяжыны: жыва-ружовая, ласасёвая і цёмна-зялёная.

Ландшафты, шчаўе, адзінокая, прыгожая лілія, знойдзеная пяць метраў ад хаты фатографа, партрэт разьбяра Уладзіміра Наумюка, дзяўчына з канём, кацяняткі.

На вернісаж прыехалі нават жыхары фатаграфаваных вёсак. Распазнаюць свае гумны, сцяжыны. Пацвярджаюць, што ўсё гэта праўда, што гэты свет існуе. Дастаткова толькі адкрыць вочы і душу.



■ Дырэктар Архіва і музея кс. д-р Тадэвуш Касабула, Марк Карнілюк і Тадэвуш Дарошка

**— Упершыню бачу Вашы здымкі. Яны каляровыя, немагчыма казачныя, — звяртаюся да мастака Тадэвуша Дарошкі.**

— Гэта добра ці кепска?

**— Цяпер дазволены толькі чорны і белы колеры, барані Божа, ніякіх вясёлак.**

— Такім ёсць свет маіх мар яшчэ з дзяцінства. Гэта дакументацыя маёй уражлівасці, свет, які я бачу, якім хачу яго бачыць. З дапамогай здымкаў магу ім падзяліцца з іншымі людзьмі, якія так яго патрабуюць.

**— Дзе прайшло Ваша дзяцінства?**

— Я ад пакаленняў карэнны беластачанін. Канікулы праводзіў звычайна ў маляўнічым падсупрасльскім Красным. Вобразы тамтэйшых лясных сажалак жывуць яшчэ ў маёй памяці.

**— Ці доўга фатаграфуеце?**

— Не, гэта маё новае захапленне. Гуляў, так як кожны, мабільнікам, пасля ўсё змяшчаў на фейсбуку. Калісь над Вялікім Каньёнам людзі ў сур'ёзным узросце папрасілі мяне зняць іх. Мужчына, пабачыўшы здымак, палічыў мяне прафесійным фатографам. Так атрымалася, што быў ён вядомым амерыканскім фатографам. Яго словы заселі ў маёй падсвядомасці. А яшчэ не давалі мне спакою дочкі, якія жывуць у той жа Амерыцы. Паказвалі мае «цацкі» чыкагскім прафесіяналам. Гэтыя раілі купіць акуратны апарат. У 2015 годзе набыў я люстраны фотаапарат і закахаўся ў новыя магчымасці. У юнацтве таксама рабіў я падыходы да здымкаў, але гэта былі часы фоталабараторыі і шматлікіх тэхнічна-інжынерскіх спраў. Сёння большасць залежыць ад мяне і гэта цудоўна. Фатаграфую свет такім, якім яго не толькі бачу, але і адчуваю і хачу яго перадаць.

**— Як гэта магчыма знайсці столькі колераў? Я ж была ў гэтых месцах і зусім іх не бачыла.**

— Асноўная справа, ці вы глядзелі на свет у час усходу і захаду сонца. Гэта так званая залатая гадзіна.Толькі што яна кожнага дня зусім іншая.

Спадар Тадэвуш абяцае надалей развівацца ў гэтым напрамку і цешыць здымкамі да апошняга свайго дыху.

Выстаўка працуе да канца бягучага года.

Іаанна ЧАБАН

**http://shainurau.com**

Выяўленчае мастацтва — гэта рэч, якая цэлы час змяняецца. Змяняецца яго філасофія, змяняюцца погляды мастакоў і грамадства, і менавіта таму мастацтва было і назаўсёды застанецца адным з чыннікаў, па якім нашчадкі вывучаюць гісторыю і норавы сваіх продкаў. Па прычыне гэтага мастакі, што малююць навакольны свет — гарадскія пейзажы, партрэты сваіх сучаснікаў, магчыма, лепш за фатографаў перадаюць гістарычны момант, бо ў кожным узмаху пэндзля ўкладваюць свае пачуцці і эмоцыі.

Адным з такіх сучасных мастакоў можна назваць віцебляніна Вячаслава Шайнурава — маладога, але таленавітага майстра. Каб у гэтым упэўніцца, дастаткова зайсці на яго сайт у інтэрнэце, які месціцца па адрасе http://shainurau.com.

Галоўная старонка сайта даволі просценькая па будове. З левага боку месцяцца выйсці на нешматлікія яго рубрыкі, а з правага, большага — выявы карцін мастака, якія па чарзе змяняюць адна другую.

Творы Шайнурава падзяляюцца па трох рубрыках — „Жывапіс", „Графіка" і „Блог". Калі першыя дзве тычацца выяўленчага мастацтва, то трэцяя раскрывае нам асобу мастака не толькі як майстра пэндзля. У „Блогу" мы знойдзем вялікую колькасць вершаў Вячаслава Шайнурава. Праўда, яны даволі неардынарныя, бо нерыфмаваныя, але падаецца, што аб'яднаныя нейкім сумам і тугой. „Калі ў сэрцы пуста,/ Тады на душы сумна!/ І не радасны дзень,/ І блізка чорная ноч.../ Не бачыш выхаду ты.../ Не радуюць больш кветкі.../ І ў полі шэрая імгла/ Стала бліжэй, чым свет агню./ Бяздушнае цела/ Блукае без справы/ У бяссільных пошуках таго,/ Што пазбавіць ад пакут яго!" — піша аўтар у вершы „Калі ў сэрцы пуста...".

Малюнкі мастака, у адрозненні ад вершаў, больш жыццесцвярджальныя. Яны перадаюць з большага спакойны, але ў той жа час эмацыйна афарбаваны настрой. Гэта тычыцца як партрэтаў, так і замалёвак віцебскіх вуліц ці краявідаў.

„Карціны Вячаслава варта чытаць паміж радкоў. З аднаго боку, людзі і выявы на іх амаль фатаграфічныя, якія можна сустрэць у будзённым жыцці. З другога — непраўдападобныя, ці не міфічныя. Так выглядае нават ахутаны туманам, снегам ці ноччу Віцебск. Дарэчы, менавіта яго вуліцы і масты, прыгажуня-Дзвіна — адна з крыніц натхнення аўтара. Загадкавымі выглядаюць партрэты рэальных людзей, якія пазіравалі мастаку пры асаблівым асвятленні", — так распавядаецца пра карціны Шайнурава, выстаўленыя ў жніўні ў мястэчку Гарадок, што на Віцебшчыне, на афіцыйным сайце мясцовых улад.

Для таго, каб пазнаёміцца з этапамі творчай біяграфіі мастака, варта зазірнуць на старонку „Біяграфія". Праўда, яна не зусім адпавядае сваёй назве. Там няма нейкага апісання дзейнасці Шайнурава з тлумачэннямі прычын яго зацікаўленняў і расповедам пра погляды майстра. Карыстальніку прапануецца храналогія асноўных падзей творчасці і выставачнай дзейнасці Вячаслава Шайнурава, якую ён пачаў у 20-гадовым узросце — з 2006 года. Згодна з паданай там інфармацыяй, яго творы знаходзяцца ў прыватных калекцыях у Беларусі, Расіі, Італіі, ЗША.

Да ўсяго варта дадаць, што сайт Шайнурава, акрамя беларускай, мае таксама англійскую і рускую моўныя версіі.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

Дата з Календара

Працаваў для беларускай аўтакефаліі

# 150 гадоў з дня нараджэння Сцяпана Войтанкі

Беларускі праваслаўны святар, дзеяч Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (БАПЦ) у ЗША Сцяпан Войтанка нарадзіўся 28 кастрычніка 1886 г. Ягонага месца нараджэння аўтару не ўдалося адшукаць. Паходзіў з сялянскай сям'і праваслаўных беларусаў: бацькі — Парфірый і Еўфрасіння Войтанкі. Скончыў пачатковую школу. Паспяхова здаў экзамены ў гімназію, аднак з-за матэрыяльных цяжкасцей ад вучобы адмовіўся. Веды здабываў самаадукацыяй і прыватнымі заняткамі. З 18-гадовага ўзросту працаваў настаўнікам у вёсцы Карыца-Рабкі на Наваградчыне. Пазней кіраваў царкоўным хорам у Зэльве. Пры Гарадзенскай кансісторыі вытрымаў экзамен на дыякана. У гады Першай сусветнай вайны быў мабілізаваны ў войска. Служыў пісарам. Паводле дэкрэта, выдадзенага ўрадам Керанскага, быў адкліканы з войска як настаўнік. Працаваў у Сакаловічаўскай школе Сенненскага павета Віцебскай губерні.

2 жніўня 1918 г. Сцяпан Войтанка ў Гродне быў рукапалажаны ў сан святара. У 1930-я гады — настаяцель Марозавіцкага прыхода (сучасны Дзятлаўскі раён). У 1938 г. Сцяпан Войтанка звольнены Гарадзенскай кансісторыяй з фармулёўкай „за супрацу паланізацыі праваслаўнай царквы" і за ўдзел сына Віктара ў віленскіх беларускіх арганізацыях. Сын быў сапраўды вельмі актыўным у беларускім руху.

З 1944 г. Войтанка ў эміграцыі. Напрыканцы 1940-х гадоў уключыўся ў царкоўна-рэлігійнае жыццё. Тады сярод розных беларускіх плыняў эміграцыі здарыўся царкоўны раскол. Гэты канфлікт палягаў у стаўленні да юрыдычнай прыналежнасці Беларускай праваслаўнай царквы на Захадзе, і ў прыватнасці да епіскапату БАПЦ. Паводле гісторыка Алега Гардзіенкі летам 1944 г. з Беларусі выехала больш 70 святароў. У лютым 1946 г. епіскапат Расейскай замежнай праваслаўнай царквы прыняў іерархаў БАПЦ у сваю юрысдыкцыю і на саборы ў Мюнхене 7 траўня 1946 г. гэтае далучэнне было зацверджана юрыдычна. Скліканне ў Рэгенсбургу З'езда беларускіх праваслаўных вернікаў 5 траўня 1946 г., у якім удзельнічала 136 дэлегатаў з трох акупацыйных зон, нічога не дало, хоць удзельнікі з'езду стварылі для супрацьу пераходу Беларускае праваслаўнае аб'яднанне (кіраўнік — Мікалай Лапіцкі) і прынялі рэзалюцыю, у якой заклікалі іерархаў застацца незалежнымі, са сваім народам. Аднак да канца 1946 г. на баку былых іерархаў БАПЦ апынуліся ўсе беларускія святары, за выняткам якраз Сцяпана Войтанкі, Хведара Данілюка і Анатоля Кунцэвіча.

Браў Войтанка ўдзел у скліканні ў 1948 г. Канстанцкага сабора і аднаўленні БАПЦ. 5 чэрвеня 1948 г., у дзень св. Еўфрасінні Полацкай, у Канстанцы ў французскай зоне акупацыі пад старшынствам епіскапа УАПЦ Сяргея прайшоў саборык праваслаўных беларусаў (вернікаў БАПЦ), скліканы па ініцыятыве новастворанага Беларускага часовага праваслаўнага рэлігійнага камітэта ў Нямеччыне. Старшынёй быў протаіерэй Сцяпан Войтанка. У саборыку ўдзельнічалі ўкраінцы, а таксама беларускія праваслаўныя вернікі. Удзельнікі заявілі пра пераемнасць традыцыі БАПЦ ад абвяшчэння аўтакефаліі мітрапалітам Мелхіседэкам у 1922 г., а таксама прызналі пастанову пра абвяшчэнне БАПЦ, прынятую на Царкоўным саборы ў Мінску ў 1942 г.

Пазней Войтанка служыў настаяцелем прыхода Жыровіцкай Божай Маці ў Гайлэнд-Парку (штат Нью-Джэрсі, ЗША). Апошнія гады святарства правеў у прыходзе БАПЦ у Нью-Брансвіку. Памёр 26 чэрвеня 1968 г. Пахаваны на могілках у Іст-Брансвіку.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Шляхецкі дом пападае ў руіну

115-гадовы шляхецкі драўляны дом, накрыты гонтай, з трыма ганкамі знаходзіцца ў Ядлоўцы (**Jodłówka**) каля Бобінкі-Калёніі, Старыны і Войнаўкі ў Дубіцкай гміне Гайнаўскага павета. Цяпер пра яго — па ўсім відаць — ніхто не клапоціцца і ён пападае ў руіну. А шкада. Гэта быў адзін з атракцыёнаў у лясах Белавежскай пушчы.



Гэты вялікі і прасторны дом ды панадворак вакол яго я ўпершыню ўбачыў у 1965 годзе. Зацікавіў ён мяне. Я чытаў пра паноў і будынкі, у якіх яны жылі, толькі ў кніжках. А вось тут я апынуўся перад панскім домам-дваром, які стаяў пасярод вялікіх бяроз і ліп. Ён быў добра захаваны. Уласнікі пра яго дбалі. Відаць было свежыя рамонты. Ганачкі былі памаляваныя. Ля аднаго з іх быў закрыты ўваход да вялікіх піўніц-скляпоў, у якіх зімой захоўвалі бульбу і агародніну. Крыху далей на захад ад дома былі сад і стаў. Ля самой дарогі стаяў дом для службы — домчварак, у якім жыла-была ўжо моцна пастарэлая служанка з гэтага двара (яна жыла адзінока, гадавала карову). Пра гэтую бабулю я напісаў асобны расказ.

Мой цесць з Бобінкі-Калёніі жыў непадалёк ад памешчыцкага дома. Ён добра ведаў пана Самуэля Бернарда Валанцэвіча. Пан быў добрым суседам. Купляў у цесця адборнае зерне жыта на пасеў. Яны абменьваліся вопытам на сельскагаспадарчыя тэмы. Цесць меў добрыя ўраджаі перш-наперш жыта і бульбы. Нядрэнна радзіла ў яго агародніна.

Аднойчы ў нядзелю пасля поўдня мы з цесцем наведалі гаспадароў памешчыцкага дома, якія прыязджалі сюды з Варшавы амаль кожнае лета. Сядзелі мы ў салоне з прыгожымі малюнкамі на сценах. Нас пачаставалі чаем, пячэннем ды яблыкамі проста з саду. Мой цесць быў тут жаданым госцем. Праўнучка пана Валанцэвіча, Ядвіга, і яе муж Тшаскоўскі далі мне свой варшаўскі адрас. Я тадыштудзіраваў у Варшаве.

У Ядлоўку я прывозіў на сваім «малюху» свайго бацьку і братоў, каб паказаць памешчыцкі дом і іншыя будынкі. Нас запрасілі агледзець дом у сярэдзіне і паглядзець прыгожыя карціны, якіх тэмай былі паляванні на дзікую звярыну. Прыязджалі на экскурсію ў Ядлоўку таксама дзеці майго брата і сястры. Ім было вельмі цікава пабачыць панскі двор.

Наведаў я памешчыцкі дом сёлета ў верасні. Ледзь трапіў да яго. Дом з усіх бакоў абступіў лес. За вялікімі зараснікамі не відаць яго ўжо з дарогі са Старыны ў Палічну. Вокны закрыты аканіцамі, некаторыя шыбы ў ганках пабіты, дзверы ў ганках забіты дошкамі... Старадаўні дом пападае ў руіну.

❖**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# Як Гапка па грыбы хадзіла

Расказвалі мне пра бабулю з Ядлоўкі такое: ёй за нішто была дзяржаўная мяжа (тут блізенька ад Ядлоўкі і Старыны Польшча мяжуе з Беларуссю), а там за мяжой у лесе ніхто не збіраў грыбоў (вядома ж мяжа, то мяжа). Па другі бок мяжы грыбоў было процьма. Бабуля ўставала раніцай, даіла кароўку, выводзіла яе на пашу. Затым вярталася дадому, ела сняданак, а хутчэй была ўжо пара на падабедак і, абуўшы гумовыя галешы (у нас называюць іх калёшы), абкручвала іх сяк-так шнурком, каб не згубіць іх, і тады ўжо адпраўлялася ў дальні лес па пліскі ды баравікі.

Яна не ведала (бо і адкуль ёй было ведаць), колькі клопатаў спрычыніла рускім пагранічнікам. Яны не спалі колькі начэй і ніяк не ўдавалася ім схапіць шпіёна. Раніцай нявыспаныя бягуць па лесе каля зааранай мяжы, а ў ім толькі карэньчыкі ад грыбочкаў. Пачалі прыглядацца да пакінутых нейкіх дзіўных слядоў. Яны вілялі, вялі то ў адзін бок, то ў другі. У канцы канцоў папрасілі яны нашых хлапцоў з пагранзаставы ў Белавежы дапамагчы ім злавіць таго нахабнага парушальніка дзяржаўнай мяжы.




Дык тут, прызнаюся, і я меў бы турботы. Вось аднойчы хаджу я па прыгожым ды грыбным сасновым старынска-бобінскім лесе і шукаю грыбочкаў. Раптам чую і бачу з боку ад дзяржаўнай мяжы пад'ехаў адзін самаход з салдатамі, затым другі. Прысеў я за кустом, каб не трапіць ім на вочы. Тут жа, вядома, прыгранічная зона, а я нетутэйшы і не меў пры сабе ніякіх дакументаў. Ну не меў я на нагах галешаў. Можа ў гэтым быў бы мой паратунак.

Калі вярнуўся дадому, мой цесць Уладзімір Сарока з Бобінкі-Калёніі кажа, што шукаюць шпіёна. Да нас заязджалі на падворак і пыталі, ці не бачылі нейкага незнаёмага, які хадзіў-круціўся б па лесе. Я ім сказаў, што тут на калёніі ў такіх галешах, падвязаных шнурочкам, адна бабка Гапка толькі ходзіць. Бабку яны засталі дома. Яна перабірала ды чысціла грыбочкі, якіх, як сама сказала, столькі там за мяжой і іх не збіраюць. Галешы стаялі побач табурэціка, на якім сядзела жанчына. Пагранічнікі міргнулі вокам адзін другому: «Паглядзі, вось дзе той шпіён!». Адыходзячы, яны пагразілі-прыказалі бабулі, каб больш за граніцу не хадзіла, бо арыштуюць.

❖**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Адгаданка

1. шкарпэтка за лытку, 2. інтэрнэтная старонка, 3. кавалак бервяна на паліва, 4. музычны твор з некалькіх featurнахарактарных п'ес, 5. не практык, 6. 60 мінут, 7. савецкая ферма, 8. парадная гасцінная зала, 9. харвацкая выспа, 10. цёплы край, куды вылятаюць птушкі, 11. кропля дажджу з... джынам.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка. **(ш)**

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | | | | 2 | | | | |
| | | | | | | | | | | | | |
| 3 | | | | 4 | 5 | | | | | | | 6 |
| 7 | | | | | | 8 | 9 | | | 10 | | |
| | | | | | | | | | 11 | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 41 нумара**

Гад, клецць, ода, пена, шаг, шуба, юра.

Рашэнне: **Ад добрага лепшага не шукаюць**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 100 egz.

# 30.10 — 05.11

**(22.03. — 20.04.)** Праяві асцярожнасць пры звароце з калючымі і рэжучымі прадметамі і не кантактуй з бытавой хіміяй. Калі знаходзішся ў рэабілітацыі пасля перанесенай хірургічнай аперацыі, строга сачы за стэрыльнасцю медыкаментаў і перавязачнага матэрыялу. Варта звярнуць увагу на ўзаемаадносіны з сябрамі. Паспрабуй пазбягаць любых інтрыг і плётак, не расказвай нікому сакрэтаў. Удалы час для падарожжаў і знаёмства з мудрымі і вопытнымі людзьмі.

**(21.04. — 21.05.)** Будзе складана весці дыялог з людзьмі і захоўваць пры гэтым добрыя адносіны з імі. Магчымыя неабдуманыя меркаванні, сутыкненне з падманам і нявернасцю. Лепш зрэзаць свае кантакты з навакольнымі людзьмі, будзе менш падстаў для непрыемнасцей. У пары будзеш адчуваць, што ад цябе нешта хаваюць, замоўчваюць аб чымсьці важным. Пасля ўсё праясніцца. Будзе ўдалы шанц для ўрэгулявання фінансаў.

**(22.05. — 22.06.)** Больш актыўна займайся мерамі прафілактыкі ад інфекцыйных вірусных захворванняў. Твой арганізм будзе аслаблены, лёгка можаш падхапіць грып. Больш адпачывай і спі. Узровень працаздольнасці можа ўпасці. Самотны, лёгка зможаш пазнаёміцца з цікавым чалавекам.

**(23.06. — 23.07.)** Цяжка будзе дамагчыся ўзаемаразумення ў адносінах з каханым чалавекам. Будзе здавацца, што паводзіны тваёй пасіі недастаткова шчырыя. Рэўнасць перашкодзіць развіццю рамантычных адносін. Пазбаўся ад гэтага пачуцця. Другая палова тыдня спрыяльная для навядзення парадку ў справах на працы і дома, усё будзе атрымлівацца лёгка і хутка,

**(24.07. — 23.08.)** Устрымлівайся ад асабістых ініцыятыў. Папярэдне ўзгадні сваё рашэнне з бацькамі або членамі сям'і. Магчымыя і іншыя сітуацыі, на глебе якіх у сямейным жыцці парушыцца паразуменне. Другая палова тыдня ўдалая для рамантычных знаёмстваў і развіцця любоўных адносін. Калі ў цябе ёсць дзеці, парадуюць цябе сваімі поспехамі.

**(24.08. — 23.09.)** Шмат інфармацыі, большая частка якой будзе ілжывай або будзе прадстаўляць рэальнасць у скажоным выглядзе. Не прымай важных рашэнняў на аснове неправераных фактаў. Асабліва гэта ставіцца да ўзаемаадносін са знаёмымі, суседзямі і калегамі. Другая напружаная тэма — паездкі і транспарт. Можа, прыйдзецца выдаткаваць нейкі час на рамонт аўтамабіля. Пасля зможаш лёгка і хутка ўрэгуляваць усе сямейныя і хатнія праблемы.

**(24.09. — 23.10.)** Узмацненне рызыкі. З панядзелка па сераду ўстрымайся ад азартных гульняў. Лепш не размаўляй з каханым чалавекам на тэму грошай, неабходных пакупак. Другая палова тыдня выдатная для вучобы і паездак. Твой інтэлект пышна справіцца з любымі задачамі. Падчас паездак па горадзе можа адбыцца рамантычнае знаёмства.

**(24.10. — 22.11.)** Сувымярай свае жаданні і намеры з тым, што думаюць блізкія сваякі, бацькі або партнёр. Але ж ты не мусіш пры кожнай нагодзе пытацца парады і дазволу ў сваякоў. Ігнараваць, усё ж, іх меркаванне па найбольш важных пытаннях не варта. Другая палова тыдня — урэгуляванне матэрыяльных пытанняў, у тым будзе табе спадарожнічаць поспех. Узровень даходаў узрасце, грошай стане больш, зможаш дазволіць сабе зрабіць пакупкі тваіх мар.

**(23.11. — 22.12.)** Можаш адчуць нейкія нязручнасці пры спробе рэалізаваць свае жаданні. Знешнія абмежаванні могуць сапсаваць твой настрой. Не замыкайся ў сабе і не ізалюй сябе ад грамадства: Магчыма неразуменне паміж людзьмі. Другая палова тыдня верне табе свабоду паводзін. Праявіўшы энергічнасць і ініцыятыву, зможаш даць старт новым справам.

**(23.12. — 20.01.)** Могуць сапсавацца адносіны з сябрамі. Трэба будзе пераацаніць адносіны. Не пазычай грошай у сяброў і сябрам — фінансавае пытанне можа стаць прычынай пагаршэння сяброўскіх адносін. Устрымайся ад планавання сваёй дзейнасці на працяглую перспектыву. Калі ў цябе маюцца комплексы, фобіі ці іншыя турботы, вывучай спецыяльную літаратуру і пракансультуйся з псіхолагам.

**(21.01. — 19.02.)** Неспрыяльны час для прыняцця рашэнняў, звязаных з прафесіяй і кар'ерным прасоўваннем. Адносіны з кіраўніцтвам напружаныя. Можа ўзнікнуць канфлікт паміж тваімі жаданнямі і рэчаіснасцю. Не ствараЙ сабе ілюзіі, бо не дамажашся поспехаў. Пасля сябры дапамогуць табе скласці адэкватную ацэнку рэчаіснасці. Своечасова зробіш захады для таго, каб сысці ад непрыемнасцей.

**(20.02. — 21.03.)** Рыбам, якія праходзяць навучанне, у першай палове тыдня не рэкамендуецца здаваць экзамены або залікі. Могуць узнікнуць праблемы з разуменнем матэрыялу. Не выключаны складанасці ў адносінах з судовымі і праваахоўнымі органамі ўлады. Другая палова тыдня выключна ўдала для прасоўвання ў кар'еры.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# У палескай глыбінцы (60)



Усе намаўлялі з'ездзіць у Свалавічы: — Там архаіка ў чыстым выглядзе, — гаварылі.

Яшчэ большага смаку нарабіла касірка з любашоўскага аўтавакзала. Палескія касіркі ведаюць усе сакрэты і плёткі ў цэлым раёне. У іх жалезная памяць да твараў, яны здалёк пазнаюць нейкага Колю з Борак ці Ніну з Нэвіра. Мяне таксама запамяталі з першага погляду. Цягам наступных дзён, калі я вярталася з прыпрыпяцкай вёскі, цёткі прасілі падзяліцца ўражаннямі ад паездкі. Ці хоць спадабалася? У іх голасе адчувалася мацярынская заклапочанасць і гонар за родны куточак. І вось, калі я намерылася ехаць у Свалавічы, касірка цяжка ўздыхнула:

— Вам нельга туды ехаць, — заявіла.

— Чаму нельга, — здзівілася я, — усе ж намаўляюць?

— Рабіце, як хочаце. Я, аднак не раю...

— А што там такое?

— Там канец свету, — ціха сказала жанчына, — ды няма ўжо да каго ехаць. Старыя людзі адно засталіся. Дзед, баба і курачка раба...

Беручы пад увагу недастатковую колькасць пасажыраў, у Свалавічы перастаў ездзіць рэйсавы аўтобус. Мне параілі дабірацца на прыватным транспарце.

— Найлепш, каб завёз нехта знаёмы, — параіла касірка. — Наш таксіст, калі пачуе польскі акцэнт, абдзярэ дагала як ліпку.

— Якія гэта грошы?

Ва Украіне з дня на дзень мяняецца кошт білетаў і транспартных паслуг. Каб забяспечыць мяне інфармацыяй, касірка пакінула сваё працоўнае акенца, схадзіла на рынак ды распытала ў дзелавітых дзядзькоў пра „украінскі" кошт за дарогу ў Свалавічы. Жанчына жыва хвалявалася за мой кашалёк і пачуццё бяспекі. Бо ж дарога ў Свалавічы ідзе праз стары, дрымучы лес...

* * *

Каб не тыя ваўкі ад Чарнобыля, ростам у цяля, я адправілася б у Свалавічы пяшком, з песняй на вуснах. Хапіла дабрацца ў сяло Шалапань, адкуль ужо дзве гадзіны хады. Далей лодкай мне трэба пераплысці Прыпяць і там, на другім баку ракі, дабірацца сухадоламі ў Нобель.

На сустрэчу з архаікай у чыстым выглядзе я дабралася аднак на таксі ажно праз тры дні. За гэты час меў ацверазець мой палескі гід, які згадзіўся завезці ў Нобель. У сваім сяле ён карыстаўся славай заядлага браканьера.

— Ён кожную штуку прынадзіць, упалюе, — расхвальвалі аднавяскоўцы.

Каб спыніць злыя языкі і здагадкі, у дарогу меў адправіцца яшчэ яго васьмігадовы сын. Мужык меў даехаць у Свалавічы на сваёй фурманцы і там выглядаць паню Ганну К.

На месцы я грымнулася ілбом ад нябачны мур. Таксіст, малады хлапец, які прыехаў пад мой гатэль на мікрааўтобусе, не хаваў расчаравання. Ён нервова закурыў папяроску і спытаў:

— А дзе ж ваша група?

Ідавочна спадзяваўся пабачыць



крутых турыстаў, апранутых у стылі сафары, са скрынкай гарэлкі. Усю дарогу не адазваўся словам. Я ехала насустрач рамантычнай прыгодзе, таму ўсё апошняе было мне як раніцай па вясне *мінулагодні снег*.

Але ж — не! З акна машыны я выглядзела шмат баравікоў, якія бессаромна красаваліся пры дарозе. Я цешылася, што не пайшла пяшком. Немагчыма было б прайсці побач такой процьмы грыбочкаў з халоднай абыякавасцю, не сарваць іх. Збіральніцкі інстынкт — не хаханькі. Ён выклікае біццё сэрца, аргазм.

Свалавічы прывіталі пясчанай дарогай з капытнікам і разваленым лёхам — так прыпрыпяцкія людзі кажуць пра зямны склеп для захоўвання прадуктаў. З кожнага кутка веяла чымсьці прызабытым, пераглытым. Сяло дажывала свае дні. Частка драўляных дамоў, з салярным знакам на шчыце, была ўжо перабудаваная на дачы.

Мы пад'ехалі да месца дзе канчалася вуліца. Далей дастойна плыла сабе Прыпяць, зафарбаваная на васільковы колер.

— Усё! — сказаў таксіст. — Канец дарогі.

* * *

Тут жа чакала і кумуляцыя архаічных атракцыёнаў. Пад тоўстымі стрэхамі з трыснягу, якія напаміналі зімовыя шапкі савецкіх апаратчыкаў, хіліліся драўляныя забудовы: хата, хлявы, кацубнік, лёх, клуня. На панадворку, абведзеным плеценым тынам, парачка вяскоўцаў збіралася ў поле. Дзядзька, з сівымі хвалямі на галаве, дзіка верашчаў на жанчыну, якая ля клуні адкідала віламі салому. Кволая постаць напамінала персанаж з даваенных здымкаў. Яе мова цела і жэсты выяўлялі прыгнечанасць і няволю. У адказ жанчына выкідала з сябе гукі, падобныя на грукат дзікай галубкі. У цэласці адчуваўся гаспадарскі спех, узбуджэнне, нервы.

Я падышла да плота, каб прывітацца. Дзядзька якраз запрагаў каня ў воз, загружаны плеценымі кошыкамі і мяшкамі. Ён відавочна звыкся з відам турыстаў, якіх лічыў звычайнай навалаччу і абібокамі:

— Збіраецеся ў поле бульбу капаць? — прамовіла я.

— А што, дапамагчы хочаш? — адказаў.

Я спытала пра майго гіда, браканьера. Ці не з'явіўся ўжо з сынам? Мужык заўсміхнуўся бяззубым ротам.

— Прасілі перaказаць, што яшчэ *нэ чынны*.

І дадаў:

— Каб не бульба, я сам бы паказаў дарогу праз балоты.

Па маёй спіне прабег мароз.

* * *

Таксіст, які спачатку хмыкаў і бурчэў, зараз праявіў заклапочанасць маім лёсам. Ён бачыў як прыбіла мяне несумленнасць браканьера. Хлопец дабыў мабілку і стаў званіць па сваіх сябрах: можа хто дапаможа? Ніхто не ведаў як справіцца з такой задачай. Як на злосць усе раілі звяртацца да таго ж браканьера.

Я па сваім жаданні трапіла ў тупік. Праўду гаварыла касірка.

Каб суцішыць душу, я пайшла да ракі выказаць свае жалі. Прыпяць абмывала скошаны панадворак турбазы, закрытай на тры замкі. Дзесь тут, у міжваенныя гады, павінен быў знаходзіцца паром, на якім тузэмцы дабіраліся ў суседнія мясціны і хутары, або сухадоламі хадзілі ў Пінск. Цягам стагоддзяў Свалавічы жылі і багацелі, дзякуючы вадзяному шляху. Кожны дзень у сяле спыняліся на начлег людзі з далёкіх закуткаў Палесся, якія плылі або вярталіся ў Пінск.

Сёння па рацэ ідзе мяжа між Любашоўскім і Зарачанскім раёнамі. З-за вады і балот яе цяжэй перасячы чым дзяржаўную мяжу. Людзі адвучыліся карыстацца чаўнамі, забылі праходы сярод балот.

Праўда, турыстам прапануюць вандроўку маторнай лодкай па Прыпяці. Я была гатова наняць такую лодку і даплысці ў Нобель. У Прыпяцкім нацыянальным парку, які афармляе такія паездкі, адаслалі мяне з нічым. Рух паралізавала засуха, якая ўжо два гады запар пануе на Палессі:

— Прыязджайце ўвесну, — суцешылі мяне ў парку, — калі прыбудзе вады ў Прыпяці!

Каб дабрацца ў Нобель, я была вымушана ехаць кругаля, праз дзве вобласці і шмат раёнаў — праз Любашоў, Колкі, Маневічы, Ківерцы, Луцк, Роўна, Сарны, Дубровіцу, Зарачаны... Дарога ў адзін бок заняла два дні.

Паміж Свалавічамі і Нобелем, напрасткі праз балоты, толькі пяць кіламетраў.

(працяг будзе)

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960